**Праект вокладкі ды вёрстка**

Кацярына Калета

# Змест

# Content

# Уводзіны

## Wstęp

## Introduction

**Радаслаў Калета**

Варшава

# Часопіс «Беларуская мова як замежная» ў даследаваннях беларусістычнай глотадыдактыкі

**Рэзюмэ**

**У дадзеным артыкуле апісваецца гісторыя стварэння, змест і мэты навукова-метадычнага часопіса “Беларуская мова як замежная”, дасягненні і задачы беларусістычнай глотадыдактыкі, а таксама перспектыўныя кірункі дзейнасці (напрыклад, дзяржаўная сертыфікацыя беларускай мовы як замежнай, стварэнне міжнароднай асацыяцыі выкладчыкаў беларускай мовы як замежнай і інш.). Першы выпуск міжнароднага часопіса выдаецца ў 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, менавіта таму ў часопісе будуць друкавацца матэрыялы не толькі пра беларускую мову, але таксама пра беларускую літаратуру, культуру, каб усебакова папулярызаваць спадчыну Беларусі сярод замежнікаў.**

**Abstract**

***Journal “Belarusian as a Foreign Language” in Belarusian Glottodidactics***

**The paper considers the history of creation, the content and the purposes of the scientific journal “Belarusian as a Foreign Language”, achievements and challenges in the field of Belarusian glottodidactics (e.g. state certification of Belarusian as a foreign language, creation of international assossiation of Belarusian language teachers, etc.). The first issue of the international journal is being published at the 500th anniversary of Belarusian book-printing. That is why the journal also includes articles on Belarusian literature and culture with the aim of promoting Belarusian heritage among foreigners.**

У Майстэрні беларусістычнай глотадыдактыкі Кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта (пры падтрымцы даследчыкаў з розных замежных і беларускіх навуковых цэнтраў, у тым ліку з Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі) пачала сваю працу рэдакцыя навукова-метадычнага часопіса “Беларуская мова як замежная”, які заслугоўвае ўвагі як навуковая прастора для даследчыкаў, якія захочуць абменьвацца думкамі і дзяліцца сваімі ідэямі ды досведам. Мэта часопіса – спрыяць пастаяннаму развіццю не толькі даследчыкаў, але таксама самой галіны навукі, якой з’яўляецца беларусістычная глотадыдактыка. Склад навуковай рады часопіса “Беларуская мова як замежная”: Генадзь Цыхун

(Нацыянальная акадэмія навук Беларусі), Лідзія Сямешка (Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы), Сяргей Важнік (Інстытут нацыянальнай адукацыі Рэспублікі Беларусь), Людміла Сінькова (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт), Таццяна Рамза (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт), Ларыса Пісарэк (Польшча, Уроцлаўскі ўніверсітэт), Аляксандр Кіклевіч (Польшча, Вармінска-Мазурскі ўніверсітэт у Ольштыне), Алена Пацехіна (Польшча, Вармінска-Мазурскі ўніверсітэт у Ольштыне), Аляксандр Скапненка (Украіна, Нацыянальная акадэмія навук Украіны), Зінаіда Пахолак (Украіна, Луцкі інстытут развіцця чалавека Універсітэта "Украіна"), Джым Дынглі (Вялікабрытанія, Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лондане), Арнольд Макмілін (Вялікабрытанія, Лонданскі ўніверсітэт), Курт Вулхайзер (ЗША, Брандайскі ўніверсітэт). Падобны часопіс ёсць ужо ва ўкраіністаў, якія з 2006 г. у Львоўскім нацыянальным універсітэце імя Івана Франко 2 разы на год выдаюць часопіс, прысвечаны тэорыі ды практыцы выкладання ўкраінскай мовы як замежнай "Теорія і практика викладання української мови як іноземної". У Польшчы існуюць часопісы, прысвечаныя польскай мове як замежнай (напр. у Варшаве "Kwartalnik Polonicum", у Лодзі "Kształcenie Polonistyczne Cudzoziemców", у Катавіцах "Postscriptum Polonistyczne").

Ідэя стварыць часопіс "Беларуская мова як замежная" ўзнікла яшчэ ў 2015 годзе, падчас працы VI Міжнароднага кангрэса беларусістаў у траўні 2015 года ў Мінску. У праграме Кангрэса была адна з самых вялікіх секцыяў – "Беларуская мова як замежная", пасяджэнне якой праходзіла ў кабінеце праф. Аляксандра Лукашанца (тагачаснага дырэктара Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа). У секцыі ўдзельнічалі прадстаўнікі розных навуковых асяродкаў Беларусі, Польшчы і Японіі (гл. фотаздымак), у тым ліку Лідзія Сямешка, (з Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы), Вольга Барысенка і Аксана Семянькевіч (з Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта), Надзея Старавойтава (з Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта), якая тады выкладала беларускую мову ў Кіеўскім нацыянальным ўніверсітэце, Ларыса Станкевіч (з Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна), якая выкладала беларускую мову ў Будапешцкім ўніверсітэце імя Лоранда Этвеша, Сіёры Кіёсава (з Цукубскага ўніверсітэта ў Японіі), Міраслаў Янковяк (з Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук), Агнешка Гораль (з Люблінскага ўніверсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай). Мадэратарам секцыі быў Радаслаў Калета (з Варшаўскага ўніверсітэта), а дыскутантам праф. Ларыса Пісарэк (з Уроцлаўскага ўніверсітэта). Даклады слухалі таксама госці, студэнты і навукоўцы, у тым ліку Алена Анісім (з Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны) і Аляксандр Скапненка (з Нацыянальнай акадэміі навук Украіны).



Удзельнікі і госці секцыі "Беларуская мова як замежная" (Міжнародны кангрэс беларусістаў, 2015)

Трэба падкрэсліць той факт, што такая секцыя была створаная не ўпершыню, таму што на V Міжнародным кангрэсе беларусістаў у 2010 годзе працавала падобная (хоць і не такая вялікая) секцыя. Цешыць тое, што навуковыя сустрэчы, прысвечаныя беларускай мове як замежнай, адбываюцца даволі рэгулярна як ў Беларусі, так і за мяжой. Напрыклад, у 2016 годзе Кафедрай сучаснай беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта была зарганізаваная Міжнародная навуковая канферэнцыя Мова – Літаратура – Культура [гл. зборнік *Мова – Літаратура – Культура*...] (да 90-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна), дзе чыталіся даклады беларускіх, рускіх і польскіх даследчыкаў, прысвечаныя таксама выкладанню беларускай мовы як замежнай, а Надзея

Старавойтава арганізвала падобную секцыю на Кангрэсе даследчыкаў Беларусі ў Каўнасе. Магчыма, праца секцыі будзе працягвацца і на варшаўскім Кангрэсе ўвосень 2017 года.

Беручы вышэйсказанае пад увагу, яшчэ больш нас цешыць тое, што ўрэшце рэшт мы можам запрапанаваць Чытачу першы нумар міжнароднага навукова-метадычнага часопіса, прысвечанага менавіта беларускай мове як замежнай. Дата першага выпуску (2017 год) не выпадковая, а вельмі сімвалічная – 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, звязанае з кніжна-выдавецкай спадчынай беларускага асветніка Францыска Скарыны, які ў друкарні, заснаванай у Празе, выдаў у 1517 годзе *Псалтыр* – першую друкаваную беларускую кнігу. Менавіта таму ў часопісе будуць друкавацца матэрыялы не толькі пра беларускую мову, але таксама пра беларускую літаратуру, культуру, а значыць пра усё, што будзе цікава не толькі выкладчыкам беларускай мовы, але і замежнікам, якія вывучаюць беларускую мову і хочуць яшчэ больш даведацца пра Беларусь. Менавіта таму некаторыя тэксты будуць паказваць Беларусь (яе мову, культуру, літаратуру) вачыма замежных гасцей і для замежных гасцей. Дзякуючы гэтаму часопіс можа не толькі папулярызаваць беларушчыну, але таксама быць візітоўкай Беларусі, якой могуць карыстацца, напрыклад, беларускія культурныя цэнтры пры пасольствах Рэспублікі Беларусь за мяжой.

На наш погляд, беларусістыцы вельмі не хапала навуковых часопісаў, прысвечаных пытанням выкладання беларускай мовы як замежнай (і шырэй – пытанням беларусістычнай глотадыдактыкі), дзе даследчыкі і выкладчыкі маглі б дзяліцца досведам ды вынікамі сваіх даследаванняў. Натуральна, паасобныя артыкулы можна знайсці на старонках беларускіх выданняў, такіх, як “Працы Кафедры сучаснай беларускай мовы” (напр., Чахоўскі 2006, 2011; Чахоўская 2006, 2011, 2014; Сысой 2008; Хоміч 2010) і “Беларусіка = Albaruthenica” (напр., Kaleta 2015a; Елісеева, Ракава 2016).

На старонках часопіса “Беларуская мова як замежная” будуць закранацца разнастайныя праблемы беларускай мовы як замежнай (БМЗ, беларусістычнай глотадыдактыкі), напр.:

1) методыка выкладання – метады выкладання граматыкі, ведаў пра Беларусь; развіццё навыкаў вуснага маўлення, аўдыявання, чытання і пісьма; новыя тэхналогіі на занятках па беларускай мове; азнаямленне з літаратурнымі тэкстамі; выкарыстанне літаратурных тэкстаў у міжнародных, аднанацыянальных групах і ў (не)славянскіх групах і г. д.;

2) беларушчына замежнікаў – аналіз моўных памылак; даследаванне г. зв. пераходнай мовы (анг. *interlanguage*) і вымаўлення;

3) параўнальная глотадыдактыка – напр., беларуска-польская, беларуска-расійская, беларуска-нямецкая і г. д.; даследаванне падабенства і адрознення моў; параўнанне метадаў выкладання, праграм курсаў, моўных цяжкасцяў, ролі выкладчыка і г. д.

4) гісторыя і сучаснасць выкладання беларускай мовы як замежнай – старыя і новыя падручнікі беларускай мовы як замежнай, спосабы прэзентацыі матэрыялу, тэматычная разнастайнасць;

5) мова і культура – пытанні культурнай лінгвістыкі (лінгвакраіназнаўства, лінгвакульпуралогія, беларусазнаўства); міжкультурная камунікацыя, выкладанне мовы і культуры Беларусі; месца культуры ў выкладанні мовы; прымаўкі, прыказкі, фразеалогія, безэквівалентная лексіка, маўленчы этыкет; стэрэатыпы ў падручніках, ролі мужчыны і жанчыны; распаўсюджаныя імёны і прозвішчы, рысы характару беларусаў; табуізацыя некаторых тэм, такіх, як эротыка, смерць, рэлігія; ідэалізацыя герояў падручнікаў, іх сям’і;

6) моўная прагматыка – напр., прывітанне, развітанне, падзяка, прабачэнне, просьба;

7) праблемы сертыфікацыі ўзроўняў валодання беларускай мовай як замежнай;

8) беларуская мова як замежная ў Беларусі і за мяжой;

9) прыклады матэрыялаў, практыкаванняў ды заняткаў па беларускай мове як замежнай;

10) праблемы адукацыі і працы выкладчыкаў беларускай мовы як замежнай у Беларусі і за мяжой, памылкі лектараў.

## Часопіс «Беларуская мова як замежная»...

У часопісе матэрыялы друкуюцца па-беларуску, па-польску і па-англійску (гл. напрыканцы часопіса пададзеныя правілы афармлення артыкулаў). Кожны артыкул павінен мець кароткую анатацыю (каля 500 знакаў) на беларускай і англійскай мовах. Назва артыкула павінна быць пададзеная таксама ў перакладзе на англійскую мову. Запрашаем усіх ахвотных дасылаць свае матэрыялы. Тэксты трэба дасылаць на электронную пошту **olga.volha1964@gmail.com** (Вольга Барысенка) і **rkaleta@uw.edu.pl** (Радаслаў Калета). Матэрыялы часопіса будуць даступныя таксама ў Інтэрнэце, каб даследчыкі, студэнты і ўсе ахвочыя з розных куткоў свету маглі імі карыстацца.

Мы лічым, што беларуская мова можа быць цудоўнай рэкламай Беларусі, яе гісторыі, культуры і спадчыны. Гэта пацвярджае прыклад Міжнароднай летняй школы беларусістыкі (гл. Международная летняя школа...), што ладзіцца з 2015 года Рэспубліканскім інстытутам вышэйшай школы. Маем надзею, што ў хуткім часе будуць створаныя яшчэ як навукова-метадычны цэнтр па беларускай мове як замежнай (а можа, нават універсітэцкая кафедра беларускай мовы як замежнай), так і міжнароднае таварыства выкладчыкаў беларускай мовы як замежнай (напрыклад, у межах Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў). Многія замежнікі хацелі б мець магчымасць атрымаць беларускі дзяржаўны сертыфікат, які пацвярджаў бы іхні ўзровень валодання беларускай мовай. Для такіх сертыфікацыйных экзаменаў неабходна падрыхтаваць тэсты, прыклады якіх былі ўжо паспяхова апрабаваныя (гл. Барысенка і інш. 2014). Падобныя сертыфікаты прапануюць шматлікія краіны, у тым ліку дзяржавы-чальцы СНД, так што хочацца мець надзею, што неўзабаве і Беларусь будзе выдаваць моўныя сертыфікаты на дзяржаўным узроўні. Гэта пакуль што праекты, мары і планы на будучыню, але вельмі важна, што сёння ўжо ёсць ясна акрэсленыя мэты, да якіх можна імкнуцца, якія можна падтрымліваць і ў неабходнасці якіх можна старацца пераканаць іншых. Самае важнае пачынаць з маленькіх крокаў, што ўжо былі ўдала зробленыя і могуць быць прыкладам для наступнікаў. Беларуская мова – гэта мова беларускага народа. Без гэтай мовы можна пазнаёміцца з Беларуссю і зразумець яе толькі ў пэўнай ступені. Разумеюць гэта нават маладыя замежныя студэнты, якія звычайна нядрэнна валодаюць рускай мовай. Яны ведаюць, што ў сучасным шматмоўным свеце няма падзелу на лепшыя і горшыя мовы. Усе мовы – гэта багацце свету, спадчына чалавецтва (здаецца, разумеў гэта ўжо Францыск Скарына). Чым больш моў ведаеш, тым больш развіваешся, багацееш у духоўным плане, не гаворачы пра новыя шанцы, што з'яўляюцца для цябе на рынку працы. Таму не існуе канфлікту паміж мовамі, няма штучнай канкурэнцыі. Вельмі радуюць маладыя людзі, якія заўсёды гатовыя вучыцца новаму. Яны разумеюць, што жаданне вучыцца – гэта прырода чалавека і праява жыцця. Хай нас не здзіўляюць тады замежнікі, якія шчыра хочуць вывучыць беларускую мову, не звяртаючы ўвагі на стэрэатыпы.

У першым нумары часопіса "Беларуская мова як замежная" ўвазе Чытачоў прапануем артыкул прафесара Лондонскага ўніверсітэта Арнольда Макміліна, які сам выдаў пяць кніг, прысвечаных Беларусі, беларускай мове, культуры і літаратуры і адказвае на пытанне, што англічане думаюць пра беларускую мову і літаратуру. Вольга Барысенка у сваім артыкуле прэзентуе некалькі асноўных падручнікаў па беларускай мове як замежнай у дыяхранічным аспекце: *Fundamental Byelorussian – Беларуская мова* [Pashkievich 1974, 1978], *Белорусский язык для небелоруссов* [Кривицкий, Михневич, Подлужный 1973], *Гаворым па-беларуску* [Сямешка і інш. 1999], *Беларуская мова? З задавальненнем!* [Рамза 2010]), *Белорусский язык для стран СНГ* [Павловская і інш. 2012], *По-белорусски? Пожалуйста! = Па-беларуску? Калі ласка!* [Мыцык 2015]. Пытанне падручнікаў – гэта вельмі актуальная тэма, асабліва што падручнікі пішуцца не толькі ў Беларусі, але і за мяжой, у розных краінах, напр. у Японіі (Рамза, Кіёсава, Усуяма 2016), Нямеччыне (Heyl 2001; Hurtig, Ramza 2003), Вугоршчыне (Станкевіч, Каткіч 2006), Польшчы (напр. Сегень 2007; Філіновіч 2007; Грэсь 2012), Украіне (Півторак 1997) ці Расіі (Блешчык 2015; Сомин 2017, параўн. Лазарева 2006; Куликович 2014). Тэма падручнікаў абмяркоўваецца таксама на навуковым узроўні ў артыкулах розных аўтараў (напр. Kaleta 2015a, 2016; Рамза 2016; Сомин 2016; Калета 2017),

таксама як іншыя пытанні беларусістычнай глотадыдактыкі (гл. напр. Важнік 2004; Барысенка 2012; Борисенко 2011; Калета 2016).

Агата Ракава прэзентуе сваю вельмі цікавую і вартую шырэйшай папулярызацыі ідэю электроннага курса па беларускай мове як замежнай. Аксана Семянькевіч дзеліцца досведам выкладання беларускай мовы як замежнай у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, паказвае задачы, што неабходна вырашыць. Перш за ўсё трэба распрацаваць дзяржаўныя моўныя стандарты, парогавыя ўзроўні валодання беларускай мовай і стварыць Сертыфікацыйны цэнтр; варта таксама развіваць і ўдасканальваць навукова-метадычную базу дысцыпліны БМЗ (навуковыя канферэнцыі, навуковыя тэмы, курсавыя, дыпломныя, магістарскія і дысертацыйныя працы) і падрыхтоўваць педагагічныя кадры для забеспячэння рэалізацыі дысцыпліны БМЗ. Лідзія Сямешка знаёміць нас з гісторыяй правядзення Міжнароднай летняй школы беларусістыкі, што рэкламавалася і ў Польшчы [гл. Kaleta 2015б], Надзея Старавойтава прэзентуе курсы БМЗ у БДЭУ, а Кацярына Канчэўская запрашае ўсіх у бязвізавы горад Гародня і падказвае, што і чаму варта паглядзець.

Усім зычым прыемнага чытання і запрашаем дасылаць свае матэрыялы для наступных нумароў часопіса “Беларуская мова як замежная”.

### Літаратура

Барысенка В., 2012, *Праблемы выкладання беларускай мовы як замежнай у вышэйшай школе*, [у:] *Новае слова ў беларусістыцы. Моваазнаўства. Матэрыялы Міжнароднага кангрэса беларусістаў, Мінск 20-21 мая 2010 года*, Belarusika = Albaruthenica № 32, Мінск, с. 392-394.

Барысенка В., Кныш Л., Куліковіч У., Літвіноўская А., Рамза Т., Семянькевіч А., 2014, *Тэст па беларускай мове як замежнай. Пачатковы ўзровень. (Базавы ўзровень, Сярэдні ўзровень, Прасунуты ўзровень, Высокі ўзровень, Дасканалы ўзровень). Агульнае валоданне*, Мінск.

Блешчык А., 2015, *Беларуская мова для рускамоўных: практыкум*, Екацярынбург.

Борисенко О.В., 2011, *Преподавание белорусского языка как иностранного. История и современность*, “Мова і культура”, вып. 14, с. 334-337.

Важнік С.А., 2004, *Беларуская мова як замежная: сацыялінгвістычны, лінгваметадычны і ўласна лінгвістычны аспекты*, [у:] Л.Н. Чумак і інш. (рэд.), *Язык и социум. Материалы VI Международной научной конференции, 3-4 декабря 2004 г., Минск*, Минск, с. 19-24.

Грэсь А., 2012, *Беларуская мова. Дапаможнік па беларускай мове для студэнтаў рускай філалогіі*, Беласток.

Елісеева В., Ракава А., 2016, *Электронны навучальны рэсурс па беларускай мове для польскамоўных навучэнцаў пачатковага ўзроўню*, [у:] І.Э. Багдановіч, М.І. Свістунова (рэд.), *Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: зб. арт.*, Беларусіка=Albaruthenica 37, Мінск, с. 73-80.

Калета Р., 2016, *Беларуская мова як замежная ў Польшчы і ў свеце*, [у:] *Мова – Літаратура – Культура. Матэрыялы VIII Міжнароднай навуковай канферэнцыі (да 90-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна), Мінск, 15–16 верасня 2016 г. У дзвюх частках*, частка 1, у аўтарскай рэдакцыі, Мінск, с. 159-165 (тэкст даступны ў Інтэрнэце).

Калета Р., 2017, *Об учебниках белорусского языка как иностранного*, “Roczniki Humanistyczne” (у друку).

Куликович В.И., 2014, *Русско-белорусский разговорник. Руска-беларускі размоўнік*, Санкт-Петербург.

Лазарева Е.Л., 2006, *Русско-белорусский разговорник. Расійска-беларускі размоўнік*, Москва.

*Международная летняя школа белорусистики завершает свою работу в Республиканском институте высшей школы*, http://www.ctv.by/mezhdunarodnaya-letnyaya-shkola-belorusistiki-zavershaet-svoyu-rabotu-v-respublikanskom-institute

*Мова – Літаратура – Культура. Матэрыялы VIII Міжнароднай навуковай канферэнцыі (да 90-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна), Мінск, 15–16 верасня 2016 г. У дзвюх частках*, у аўтарскай рэдакцыі, Мінск 2016.

Мыцык Г., 2015, *По-белорусски? Пожалуйста! = Па-беларуску? Калі ласка!*, Минск.

Павловская Н.Ю., Борисенко О.В., Васюченко П.В., Кныш Л.С., Семенькевич О.В., Чеховский Г.К., 2012, *Белорусский язык для стран СНГ: учебник*, Москва.

Півторак Г., 1997, *Білоруська мова. Підручник*, Київ.

Рамза Т.Р., 2010, *Беларуская мова? З задавальненнем! Для замежных навучэнцаў*, Мінск.

Рамза Т.Р., 2016, *Пазамоўная інфармацыя ў дапаможніках па беларускай мове для замежнікаў: ці ёсць крытэрыі адбору?*, [у:] *Мова – Літаратура – Культура. Матэрыялы VIII Міжнароднай навуковай канферэнцыі (да 90-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна), Мінск, 15–16 верасня 2016 г. У дзвюх частках*, частка 1, у аўтарскай рэдакцыі, Мінск, с. 172-174.

Рамза Т., Кіёсава С., Усуяма Т., 2016, *Спрабуйма! Азнаямляльна-пачатковы курс беларускай мовы для японцаў. Част-*

*ка I*, Цукубскі ўніверсітэт.

Сегень Л., 2007, *Беларуская мова. Дапаможнік для студэнтаў беларускай філалогіі. Курс 1*, Беласток.

Сомин А.А., 2017, *Белорусский язык. Самоучитель*, Москва.

Сомин А.А., 2016, *Новы падручнік “Белорусский язык. Самоучитель”: праблемы і рашэнні*, [у:] *Мова – Літаратура – Культура. Матэрыялы VIII Міжнароднай навуковай канферэнцыі (да 90-годдзя прафесара Льва Міхайлавіча Шакуна), Мінск, 15–16 верасня 2016 г. У дзвюх частках, частка 1*, у аўтарскай рэдакцыі, Мінск, с. 189-192.

Станкевіч Л., Каткіч Ж., 2006, *Дваццаць сустрэч з Беларуссю. Падручнік па беларускай мове для пачаткоўцаў*, пад агульнай рэдакцыяй Андраша Золтана, Будапешт.

Сысой Н.М., 2008, *Прафесійная кампетэнцыя выкладчыка беларускай мовы як замежнай*, “Працы Кафедры сучаснай беларускай мовы”, вып. 7, с. 107-110.

Сямешка Л.І., Бадзевіч З.І., Белакурская Ж.А., Ляшук В.М., Пацехіна А.А., Рамза Т.Р., Чахоўскі Г.К., Шкраба І.Р., 1999, *Гаворым па-беларуску. Вучэбны дапаможнік па беларускай мове для замежных навучэнцаў*, пад рэд. Л. Сямешкі, Мінск.

Філіновіч А., 2007, *Беларуская мова. Дапаможнік для студэнтаў беларускай філалогіі. Курс 2*, Беласток.

Хоміч М.В., 2010, *Беларускія і польскія прасадычныя адзінкі на занятках беларускай мовы як замежнай: кампаратыўны аспект*, “Працы Кафедры сучаснай беларускай мовы”, вып. 9. *Да 80-годдзя з дня нараджэння прафесара Леаніда Іванавіча Бурака*, с. 110-114.

Чахоўская Т.Л., 2006, *Метады даследавання ў методыцы выкладання беларускай мовы як замежнай*, “Працы Кафедры сучаснай беларускай мовы”, вып. 5. *Да 70-годдзя з дня нараджэння доктара філалагічных навук, прафесара Арнольда Яфімавіча Міхневіча*, с. 175-180.

Чахоўская Т.Л., 2011, *Урок па практыцы беларускага маўлення. Структура ўрока*, “Працы Кафедры сучаснай беларускай мовы”, вып. 10. *Да 90-годдзя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта*, с. 90-97.

Чахоўская Т.Л., 2014, *Мэты і задачы навучання беларускай мове як замежнай*, “Працы Кафедры сучаснай беларускай мовы”, вып. 13, с. 62-71.

Чахоўскі Г.К, 2006, *Методыка выкладання беларускай мовы іншаземцам як вучэбная, навуковая і практычная дысцыпліна*, “Працы Кафедры сучаснай беларускай мовы”, вып. 5. *Да 70-годдзя з дня нараджэння доктара філалагічных навук, прафесара Арнольда Яфімавіча Міхневіча*, с. 180-196.

Чахоўскі Г.К., 2011, *Сістэма сродкаў навучання беларускай мове як замежнай*, “Працы Кафедры сучаснай беларускай мовы”, вып. 10. *Да 90-годдзя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта*, с. 97-106.

Heyl S., 2001, *Weißrussisch. Lehrmaterial zum Kurs Weißrussische Sprache*, Berlin.

Hurtig C., Ramza T., 2003, *Belarussische Grammatik in Tabellen und Übungen = Граматыка беларускай мовы ў табліцах і практыкаваннях*, München.

Kaleta R., 2015a, *Kilka uwag o nauczaniu Polaków języka białoruskiego jako obcego*, [у:] І.Э. Багдановіч (рэд.), *Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі. Зборнік артыкулаў*, Беларусіка=Albaruthenica 36, Мінск, с. 69-78.

Kaleta R., 2015б, *Nowa fala zainteresowania językiem białoruskim jako obcym (JBJO). Sprawozdanie z Międzynarodowej Letniej Szkoły Białorutenistyki w Mińsku*, “Białorutenistyka Białostocka” 2015, т. 7, с. 467-469, https://depot.ceon.pl/handle/123456789/10431 [доступ: 20.12.2016].

Kaleta R., 2016, *Tematyka chrześcijańska na lektoratach języka polskiego i języka białoruskiego jako języków obcych*, „Studia Slavica”, № XX/2, с. 97-110.

Pashkievich V., 1974, *Fundamental Byelorussian = Беларуская мова. Book 1*, ed. by A. Adamovich, Toronto.

Pashkievich V., 1978, *Fundamental Byelorussian = Беларуская*

**Артыкулы**

**Artykuły**

**Articles**

**Arnold McMillin**

London

# What the British Think about Belarusian Language and Literature

*мова. Book 2*, ed. by A. Adamovich, Toronto.

**Abstract**

**Britain is largely ignorant about Belarusian language and literature, having heard only of Minsk, Chernobyl and Lukashenka. Attempts to inform the public about this country began in the middle of the 20th century through the lectures and publications of the Anglo-Belarusian (then Byelorussian) Society. This limited success has been continued to the present day, with books, conferences and various meetings of the Society. Informing the wider public, however, is as challenging now as it was over half a century earlier.**

**Рэзюмэ**

***Што думаюць брытанцы пра беларускую мову і літаратуру***

**Вялікабрытанія, наогул, мала ведае пра Беларусь, акрамя Мінска, Чарнобыля і Лукашэнкі. У сярэдзіне XX стагоддзя Англа-Беларускае Таварыства намагалася даць інфармацыю брытанскай публіцы пра культуру гэтай краіны праз канферэнцыі, курсы лекцый, часопіс “Журнал беларускіх даследаванняў”, артыкулы і кніжкі. Такія намаганні робяцца да гэтых часоў, але поспехі – даволі сціплыя, як гэта было і 6О гадоў таму.**

Belarus is not a well-known country in England, and I have often been asked where it is and whether Belarusian is a language or a dialect. This, incidentally, is a view held by many Russians, who extend their dialectal grasp also to Ukraine and, in extreme cases, Poland. In general British knowledge about Belarus is rather similar to that of the Arab carpet seller who, on learning that the speaker (Uladzimier Arloŭ) was Belarusian, exclaimed with a joyful pearly smile, ‘Minsk, Chernobyl. Lukash’enka!’ [*sic*] [Arloŭ 1998: 157].

An early attempt to acquaint the British with Belarusian culture was the founding of the Anglo-Belarusian Society in 1954 whose object was ‘the diffusion, interchange and publication of knowledge relating to the Belarusian people, their land, history and culture’. In early years, several British aristocrats and even members of parliament took an interest in Belarus and tried to speak about it in public forums. The Society’s heyday was from 1965 to 1984 when it held an annual course of six lectures on Belarusian topics (delivered by British and émigré Belarusian scholars). At this time there began to be published a scholarly and informative publication, “The Journal of Byelorussian Studies” from 1966 to

1984, which was revived in a new series in 2013 as "The Journal of Belarusian Studies", at first published in Belarusian and English, but since 2015 only in English.

During the second half of the 20th century the Society arranged a number of international seminars and conferences, with topics that included: Aleksandr Potebnia; Vaclaŭ Lastoŭski; Skaryna's life and work; Janka Kupala and Jakub Kolas; the Biadulia and Harun centenary; the Belarusian diaspora; culture and politics in post-totalitarian society; Belarusian Nobel prize winners; and, most recently, in 2016, Belarusian studies in the 21st century.

In the 1960s and 1970s the late Fr Alexander Nadson organized a boarding school for the children of Belarusian émigrés in London, teaching them mathematics and Belarusian language, history and literature, whilst they studied other subjects at local English schools. A generation later, the children of more recent émigrés have the possibility of attending Belarusian lessons once a week and these classes are also available to non-Belarusians who have a particular reason for learning the language. The lessons are for beginners, rather than for those who have through circumstances neglected their native language, as in the excellent Mova Nanova movement in Miensk and other Belarusian cities.

Books are another way of trying to disseminate interest in Belarusian language, literature and history. Two major books about Belarusian history, particularly of the contemporary period, appeared in 2011 [Bennett 2011, Wilson 2011]; they should have drawn the attention of anglophone readers to a subject still insufficiently understood in England (and probably other countries too). Shirin Akiner published a groundbreaking book on the Belarusian Tatar manuscript in the British Museum [Akiner 2009]. Earlier she had produced a parallel text edition of Miniatures by Sakrat Janovič [Akiner 1984].

The present author has written one book about the formation of the Belarusian literary language [McMillin 1973] and five about Belarusian literature [McMillin 1977, 1999, 2002, 2010, 2015]. These books, though written in England, do not take account of anglophone publications written and published in America, Canada and elsewhere, where the main interest in recent years has been in history and politics, émigré writing and memoirs; one exception will be mentioned below.

Almost certainly, the best way of familiarizing readers in England with Belarusian literature is through translations, but translation of foreign (and specifically Belarusian) texts is not nearly as widespread as it is, for instance, in Germany – one of the consequences not merely of narrow British chauvinism as of the immense extent of anglophone literature worldwide. With the death of Vera Rich in 2009 we lost perhaps the only truly talented translator of Belarusian poetry into English, and some of the best examples of her work were collected in 1971, although she continued working to the end of her life [Rich 1971]. In the present century Jim Dingley, translator of Arloŭ's *Kraina Belaruś* (2003) [Arloŭ 2013], has also produced an excellent version of Natalka Babina's novel *Rybin horad* (2007) [Babina 2013]. There are also two first-class translations of novels by Vasiĺ Bykaŭ: *Sotnikaŭ* (1970) as *The Ordeal* [Bykaŭ 1972] and *Znak biady* (1982) as *Sign of Misfortune* (Bykaŭ 1990). The first book-length study of Bykaŭ's work in English was made by the Canadian scholar Zina Gimpelevich [Gimpelevich 2005].

The Francis Skaryna Belarusian Library in north London (opened in ) is a valuable source of information on all aspects of Belarus, including language and literature. In 2016 various elements of modernization were begun, including putting the Library into Wikipedia and beginning, at long last, work on an electronic catalogue.

At the present time the Anglo-Belarusian Society mainly concentrates on traditional events such as Kupalle, Mother Language Day and Kaliady. The aims of the Society are the same as they were half a century earlier, and attendance at meetings little different but the problems of bringing the culture of Belarus to a wider British public remains, despite all their/our efforts, as challenging as they ever were.

### Literature

Akiner S., 1984, *Minatures by Sakrat Janovič*, London.

Akiner S., 2009, *Religious Language of a Belarusian Tatar Kitab: A Cultural Monument of Islam in Europe*, Wiesbaden.

Arloŭ U., 1998, *Božaja karoŭka z piataj aveniu*, Miensk.

Arloŭ U., 2013, *The Country called Belarus*, translated by Jim Dingley, Bratislava.

Babina N., 2013, *Down among the Fishes*, translated by Jim Dingley, London.

Bennett B., 2011, *The Last Dictatorship in Europe: Belarus under Lukashenko*, London.

Bykaŭ V., 1972, *The Ordeal*, translated by Gordon Clough, London.

Bykaŭ V., 1990, *Sign of Misfortune*, translated by Alan Myers, New York.

Gimpelevich Z., 2005, *Vasil Bykaŭ: His Life and Works*, Montreal and Kingston etc.

McMillin A., 1973, *The Vocabulary of the Byelorussian Literary Language in the Nineteenth Century*, London.

McMillin A., 1977, *The History of Byelorussian Literature: From its Origins to the Present Day*, Giessen.

McMillin A., 1999, *Belarusian Literature in the 1950s and 1960s: Release and Renewal*, Wien.

McMillin A., 2002, *Belarusian Literature of the Diaspora*, Birmingham.

McMillin A., 2010, *Writing in a Cold Climate: Belarusian Literature from the 1970s to the Present Day*, London.

McMillin A., 2015, *Spring Shoots: Young Belarusian Poets in the Early Twenty-First Century*, Cambridge.

Rich V., 1971, *Like Water, Like Fire: An Anthology of Byelorussian Poeter from 1828 to the Present Day*, London.

Wilson A., 2011, Belarus: *The Last European Dictatorship*, New Haven and London.

**Вольга Барысенка**

Мінск

# Вучэбна-метадычныя дапаможнікі па беларускай мове як замежнай. Дыяхранічны аспект

**Рэзюмэ**

**У артыкуле праведзены аналіз вучэбна-метадычнай літаратуры па беларускай мове як замежнай. Першыя айчынныя выданні нельга назваць сапраўднымі падручнікамі: матэрыял у іх размешчаны ў акадэмічным парадку, адсутнічаюць камунікатыўныя практыкаванні. З 2000-х гадоў пачынаюць з'яўляцца дапаможнікі, прызначаныя для развіцця навыкаў і ўменняў беларускага вуснага маўлення. Сёння неабходна ства-рыць дзяржаўную паўзроўневую тыпавую праграму навучання беларускай мове як замежнай, адпаведную еўрапейскай сертыфікацыйнай сістэме ўзроўняў вало-дання замежнымі мовамі, на падставе чаго і магчыма распрацаваць сучасныя вучэбныя комплексы.**

**Abstract**

***Handbooks on Belarusian as a Foreign Language in a Diachronic Aspect***

**The article gives an overview of text-books devoted to Belarusian as a foreign language. They can not be fully regarded as textbooks because the material is presented in an academic manner and lacks the communicative approach. Since the year of 2000, several speech practice handbooks have been published. Today it is necessary to work out a national level-based model curriculum of Belarusian as a foreign language as required under the Common European Framework of Reference, which will give rise to modern textbooks.**

## Вучэбна-метадычныя дапаможнікі па беларускай мове...

Беларуская мова як замежная нядаўна зрабілася як аб’ектам даследавання, так і прадметам выкладання ў вышэйшай школе Беларусі. Пры гэтым рознага роду дапаможнікі для іншамоўных навучэнцаў пачалі з’яўляцца з другой паловы XX ст. і ў Беларусі, і за яе межамі. Адным з першых вопытаў стварэння дапаможніка па беларускай мове для замежных навучэнцаў стаўся падручнік ў 2-х тамах В. Пашкевіч, які выйшаў у Таронта (Канада) у 1974 г. [Pashkievich 1974, 1978]. Падручнік быў запатрабаваны жыццём беларускай дыяспары ў Канадзе. Дзеці эмігрантаў дасягнулі школьнага ўзросту, у тым ліку і дзеці Валянціны Пашкевіч. Яна, педагог па прафесіі, заснавала пры беларускай царкве святой Ефрасінні Полацкай у Таронта суботнюю беларускую школу. Натуральна, школе патрэбныя былі дапаможнікі. Спачатку В. Пашкевіч склала *Першую чытанку пасля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў*, якая была выдадзена ў Кліўлендзе (ЗША) у 1968 г. А потым у 1974 г. з’яўляецца англамоўны падручнік *Fundamental Byelorussian = Беларуская мова*. Гэтыя два тамы да сённяшняга дня ўзор сістэматызаванага і поўнага і практыка-арыентаванага курса беларускай мовы як замежнай. Канадскі ўрад падтрымаў гэты праект і выступіў адным са спонсараў. Томас Э. Бэрд напісаў рэцэнзію: “Падручнік Fundamental Byelorussian В. Пашкевіч мае шмат добрых рысаў. […] Студэнту даецца ўгляд у розныя аспекты беларускае гісторыі, быту, культуры, геаграфіі. Пры канцы кожнага тому даволі вялікія беларуска-англійскія і англійска-беларускія слоўнікі, якія разам ахопліваюць каля 20 000 словаў. Карта, змешчаная ў 20-м раздзеле, была б больш даступнай для ўжывання і карыснай, калі б была змешчаная на самым пачатку кнігі. Фатаграфіі і малюнкі павялічваюць зацікаўленне падручнікам, хоць у іх больш настальгіі ды выпадковага адлюстравання, як сістэматычнае спробы ўлучыць навочны матэрыял пра Беларусь – “колішняга” або цяперашняга часу. Занадта сціплай з’яўляецца дапаўняльная інфармацыя пра Беларусь. Кожнай з закранутых тэм трэба было прысвяціць, прынамсі, старонку: геаграфіі БССР, размеркаванню жыхарства рэспублікі, вышэйшым навучальным установам, прыродным багацьцям. Невялікія карты, малюнкі, прадумана падабраныя статыстычныя табліцы ажывілі б тэкст інфармацыі. Аднак двухтомны падручнік з’яўляецца важным дасягненнем у галіне навучання мове” [Бэрд 1973: 2]. В. Кіпель успамінаў, што па падручніку В. Пашкевіч займаліся студэнты славістыкі Калумбійскага ўніверсітэта ў Нью-Ёрку.

Дапаможнік уяўляе з сябе адначасова і падручнік, і метадычнае кіраўніцтва для выкладчыка. Навучэнцы маглі авалодаць базавым лексічным і граматычным мінімумам. Двухтомны дапаможнік складаецца з 5-ці раздзелаў – лексіка-граматычных модуляў, якія падзяляюцца на 29 заняткаў-“кругоў”. Кругі ўключаюць у сябе лексічны тэкставы матэрыял, граматычныя і арфаграфічныя правілы, лексіка-граматычныя і камунікатыўныя практыкаванні. Кожны раздзел заканчваецца заняткамі на паўтарэнне-замацаванне. У падручніку выкарыстоўваюцца англійская і беларуская мовы. Нават у змесце тэма спачатку падаецца па-англійску, а потым па-беларуску. Адпаведна, дапаможнік арыентаваўся на англамоўнага навучэнца. Звесткі па фанетыцы падаюцца на працягу 18 заняткаў, арфаграфія на працягу ўсіх заняткаў, у апошнім крузе распавядаецца пра “важнейшыя выпадкі, калі трэба ставіць коску” [Pashkievich 1974: 10].

Неабходна адзначыць арыгінальны падыход да паслядоўнасці падачы граматычнага матэрыялу.

1. Пытальныя займеннікі *хто*? *што*? Злучнікі *і*, *а*, *ды*. Цяперашні час дзеяслова *быць*.

2. Род назоўніка. Назоўны склон.

3. Колькасныя лічэбнікі ад *аднаго* да *дзесяці*. Асабовыя займеннікі. 1-е спражэнне дзеяслова (*пяяць, чытаць*).

4. Спалучэнне прыметніка з назоўнікам, спражэнне дзеясловаў *браць*, *пісаць*. Склоны назоўніка. Вінавальны склон.

5. Родны склон адзіночны лік. Вінавальны склон адзіночны лік адушаўлёных назоўнікаў мужчынскага роду. Злучнік *але*.

6. Другое спражэнне дзеяслова. Дзеяслоў з адмоўем *не*. Месны склон назоўніка.

7. Дзеясловы *сядзець*, *любіць*, *даваць*, *жыць*. Прошлы час. Месны склон для азначэння часу.

Вольга Барысенка

8. Дзеясловы *есці*, *ехаць*. Творны склон адзіночны лік назоўнікаў.

9. Давальны склон адзіночны лік назоўніка. Безасабовыя сказы. Колькасныя лічэбнікі ад *адзінаццаці* да *дваццаці*.

10. Будучы складаны час. Скланенне асабовых займеннікаў. Выражэнне прыналежнасці родным склонам.

11. Прошлы час дзеяслова на *-сці*, *-зці*, *-чы*. Загадны лад. Зваротныя дзеясловы.

12. Трыванні дзеяслова. Будучы просты час. Творны склон у выказніку.

13. Скланенне прыметніка ў адзіночным ліку. Віды займеннікаў.

14. Скланенне пытальных і ўказальных займеннікаў. *Мне падабаецца // я люблю.*

15. Родны склон множны лік назоўніка. Вінавальны склон множны лік назоўніка. Родны склон множны лік назоўніка з колькаснымі лічэбнікамі ад *пяці* да *дваццаці*, пасля *шмат*, *мала*, *паміж*. Творны склон множны лік назоўніка.

16. Давальны склон множны лік, месны склон множны лік назоўніка.

17. Дзеясловы руху. Скланенне прыметнікаў у множным ліку. Прыметнікі якасныя, адносныя і прыналежныя, поўныя і кароткія. Прыслоўі. Скланенне прозвішчаў і геаграфічных назваў.

18. Ступені параўнання прыметніка і прыслоўя. Парадкавыя лічэбнікі ад *аднаго* да *дваццаці*.

19. Прыметнік у ролі назоўніка. Рознаскланяльныя, нескланяльныя назоўнікі.

20. Колькасныя і парадкавыя лічэбнікі ад *дваццаці аднаго* да *ста*. Скланенне. *Чалавек – людзі.*

21. Колькасны і парадкавыя лічэбнікі пасля *ста*. Скланенне. Спалучэнне назоўнікаў з колькаснымі лічэбнікамі. Парны лік. Прыналежныя займеннікі.

22. Зборныя лічэбнікі. Спалучэнне дзеяслова з лічэбнікам. Дробавыя лічэбнікі. Безасабовыя дзеясловы. Азначальныя займеннікі. Зваротны займеннік *сябе*.

23. Табліца множання па-беларуску. Неазначальныя займеннікі. Адмоўныя займеннікі. Абвесны, загадны, умоўны лад дзеяслова. Часціцы *не*, *ні*.

24. Пераходныя і непераходныя дзеясловы. Незалежны і залежны стан дзеяслова. Дзеепрыметнік. Дзеепрыслоўе. Запрошлы і прадбудучы час.

25. Даты. Узрост. Прошлы час са злучнікам *каб*.

Асобна пададзены граматычныя табліцы скланення назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў, спражэння дзеяслова.

Для прыкладу, спынімся на першым з 6-ці "кругоў". Спачатку падаецца алфавіт (кірыліца і лацінка), асноўныя звесткі пра фанетычны лад беларускай мовы. В. Пашкевіч прыводзіць кароткі кампаратыўны каментар пра вымаўленне беларускіх гукаў у параўнанні з англійскімі. Каментар дублюецца па-англійску. Пачынаецца першы "Круг" з палілогу *Па дарозе ў школу*, далей падаецца беларуска-англійскі слоўнік, у якім змешчаны асобныя словы, выразы і сказы з палілогу. Практыкаванні накіраваны на выпрацоўку навыкаў чытання, вымаўлення і на тэарэтычныя веды па фанетыцы. Напрыклад, патрабуецца пазначыць, колькі ў словах галосных, паўгалосных (санорных) і зычных.

Падручнік быў заснаваны на граматыцы Браніслава Тарашкевіча. Але і сёння дадзены дапаможнік уяўляе цікавасць для спецыялістаў-філолагаў як першая прыступка развіцця тэорыі і практыкі выкладання беларускай мовы як замежнай у свеце.

Практычна сінхронна ў Мінску ў 1973 г. выходзіць дапаможнік А. А. Крывіцкага, А. Е Міхневіча, А. І. Падлужнага *Белорусский язык для небелоруссов* [Кривицкий, Михневич, Подлужный 1973]. Кніга напісана на рускай мове. Складаецца з сямі раздзелаў, прысвечаных гісторыі беларускай мовы, фанетыцы і арфаэпіі, марфалогіі, сінтаксісу. Акрамя гэтага, у дапаможніку маецца хрэстаматыя і кароткі дыферэнцыйны руска-беларускі слоўнік. У эміграцыйным часопісе "Запісы" была змеш-

чана рэцэнзія Яна Садоўскага на дапаможнік. Аўтар адзначыў вартасць, а таксама недахопы выдання [Садоўскі 1973: 10]. Авалодаць практыкай беларускага маўлення, карыстаючыся гэтым дапаможнікам, наўрад ці атрымаецца. Думаецца, аўтары і не ставілі перад сабой такой задачы. У адрозненне ад сітуацыі ў эмігранцкім асяроддзі, дзе неабходна было навучыць дзяцей гаварыць па-беларуску, у БССР беларуская мова існавала як шыльда, як аб'ект навуковага даследавання, а не як сродак камунікацыі. У адпаведнасці з гэтым, А. А. Крывіцкі, А. Е. Міхневіч, А. І. Падлужны добрай навуковай мовай апісваюць фанетычныя і граматычныя асаблівасці беларускай мовы для рускамоўных навукоўцаў.

Пазней вопыт гэтага выдання быў выкарыстаны ў дапаможніках *Белорусский язык для говорящих по-русски* [Кривицкий, Михневич, Подлужный 1990] і *Учебник белорусского языка для самообразования* [Кривицкий, Подлужный 1994]. Гэтыя выданні таксама знаёмілі з фанетыкай, арфаграфіяй, марфалогіяй, сінтаксісам, стылістыкай беларускай мовы. Натуральна, асаблівая ўвага была накіравана на кампаратыўны беларуска-рускі аспект. Адзначым, што *Учебник белорусского языка для самообразования* падзелены на ўрокі, у якіх маецца тэарэтычная і практычная часткі.

На жаль, гэтыя выданні нельга назваць сапраўднымі падручнікамі па беларускай мове як замежнай. Матэрыял размешчаны ў акадэмічным парадку, адсутнічаюць камунікатыўныя практыкаванні.

У 1999 годзе ў БДУ пад рэдакцыяй Л. І. Сямешкі выйшаў падручнік *Гаворым па-беларуску. Вучэбны дапаможнік па беларускай мове для замежных навучэнцаў* [Сямешка і інш. 1999]. У прадмове гаворыцца, што "Вучэбны дапаможнік *Гаворым па-беларуску* прызначаны для развіцця навыкаў і ўменняў беларускага вуснага маўлення. Ён разлічаны на пачатковы этап навучання замежных слухачоў кароткатэрміновых курсаў беларускай мовы, летніх лінгвістычных школ, а таксама тых, хто самастойна вывучае беларускую мову" [Сямешка і інш. 1999: 7]. У падручніку 10 тэматычных раздзелаў: *Знаёмства. Сям'я. Прафесія*; *Працоўны дзень*; *Кватэра. Вясковая хата*; *Горад. Гарадскі транспарт*; *Магазіны. Пакупкі*; *Харчаванне. Беларуская кухня*; *Чалавек. Знешнасць. Рысы характару*; *Падарожжа*; *Мастацтва*; *Святы і абрады*. Граматычны матэрыял звязаны з тэматыкай раздзелаў і размеркаваны па функцыянальным прынцыпе. Аўтары дапаможніка сапраўды мелі на мэце "фарміраванне і ўдасканаленне навыкаў і ўменняў прадуктыўнага маналагічнага і дыялагічнага маўлення ў сітуацыйна-абумоўленым кантэксце" [Сямешка і інш. 1999: 7]. Выданне змяшчае беларуска-руска-англійскі слоўнік.

У 2008 годзе ў Маскве выходзіць дапаможнік С. Аляксандрава і Г. Мыцык *Гавары са мной па-беларуску. Гутарковая мова ў штодзённым ужытку* [Аляксандраў, Мыцык 2008]. Кніга нават увайшла ў топ бестсэлераў мінскай кнігарні "ЛогвінаЎ" за 2011 год. Дапаможнік арыентаваны на рускамоўнага навучэнца. Першыя 15 старонак пакідаюць надзвычай станоўчае ўражанне, дзякуючы вельмі добраму ілюстрацыйнаму афармленню дапаможніка. Тут падаюцца асноўныя звесткі пра маўленчы этыкет, граматыку (род назоўнікаў, прыметнікаў, адушаўлёнасць/неадушаўлёнасць, пытальныя словы). На жаль, потым граматыка падаецца па акадэмічным прынцыпе: назоўнік, прыметнік, займеннік, дзеяслоў, лічэбнік, дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе, прыслоўе, прыназоўнік, злучнік, часціца. Наступныя 8 урокаў разбіты па тэмах з практыкаваннямі на скланенне назоўнікаў: *Грошы. Гандаль*; *Ежа*; *Час*; *Пошта*; *Адпачынак*; *Дарога*; *Чалавек. Здароўе*; *Абслугоўванне*. Трэба адзначыць, што дапаможнік напісаны на тарашкевіцы, што не спрыяла яго шырокаму распаўсюджанню і запатрабаванасці. Гэта выправіла Г. Мыцык, выдаўшы ў 2015 годзе дапаможнік *По-белорусски? Пожалуйста! = Па-беларуску? Калі ласка!* [Мыцык 2015] (яўны перапеў назвы дапаможніка Т. Рамзы *Беларуская мова? З задавальненнем!* [Рамза 2010]). Аўтарка практычна паўтарыла вопыт папярэдняга маскоўскага выдання, змяніўшы арфаграфію і трохі афармленне. Рэцэнзентамі выдання былі сацыёлаг В. Маруцік і пісьменнік В. Садаль, якія не маглі адэкватна ацаніць лінгвістычныя і метадычныя вартасці дапаможніка.

У 2010 годзе пабачыў свет дапаможнік Т. Р. Рамзы *Беларуская мова? З задавальненнем! Для замежных навучэнцаў* [Рамза 2010] з элек-

Вольга Барысенка

тронным дадаткам. Як сцвярджае аўтарка, дапаможнік разлічаны на 120 вучэбных гадзін. На кожных занятках даюцца веды па лексіцы, граматыцы, сінтаксісе і маўленчым этыкеце. У падручніку таксама змешчаны граматычныя табліцы і тэксты для чытання. Вялікая ўвага надаецца краіназнаўчаму аспекту ў падборы і падачы матэрыялу.

Падручнік цікавы і з пункту гледжання арыгінальнай паслядоўнасці падачы граматычнага матэрыялу, бо гэтая найважнейшая праблема практычна не абмяркоўвалася ў беларускай методыцы. Разгледзім граматычнае напаўненне падручніка.

Яшчэ ва ўводна-фанетычным курсе адбываецца агульнае знаёмства з вельмі важнымі граматычнымі тэмамі: спражэннем дзеяслова ў цяперашнім і прошлым часе. Спачатку падзел на спражэнні называецца функцыянальна спрошчана: е-спражэнне і ы-спражэнне. Тут жа адбываецца знаёмства з колькаснымі і парадкавымі лічэбнікамі, некаторымі службовымі часцінамі мовы (злучнікам і, часціцамі *не*, *б/бы*, *ж/жа*, прыназоўнікамі *без* і *з*), іх вымаўленне часта не супадае з напісаннем.

Асноўны курс падзелены на 18 заняткаў – лексіка-граматычных блокаў, на пачатку кожных адбываецца карэкціроўка вымаўлення пэўных гукаў і гукавых спалучэнняў. Тэматыка гэтых блокаў, можна сказаць, класічная для падручнікаў па замежнай мове: *заняткі*; *імя ўласнае, прафесія, нацыянальнасць*; *сям'я, харчаванне*; *будзень*; *памяшканне, жыллё*; *пошта, інтэрнэт*; *магазін, пакупкі*; *рынак*; *адпачынак*; *любімы занятак*; *гігіена і здароўе*; *горад*; *арыентацыя ў горадзе*; *знакамітасці*; *чалавек, знешнасць*; *рысы характару*; *замежныя камандзіроўкі*; *надвор'е, прырода*. Граматыка і паслядоўнасць яе вывучэння, натуральна, звязана з лексічнымі тэмамі. Т. Рамза тут кіравалася ўласным лінгвістычным досведам і інтуіцыяй.

1. З лексічнай тэмай *Заняткі* падаецца род назоўніка (усе чатыры граматычныя роды: мужчынскі, жаночы, ніякі і агульны); асабовыя і прыналежныя займеннікі ў назоўным склоне; першае спражэнне дзеяслова (цяперашні час), адбываецца знаёмства з сямю тыпамі і чаргаваннямі ў аснове і канчатках.

2. З лексічнай тэмай *Імя ўласнае. Прафесія. Нацыянальнасць* падаецца множны лік назоўнікаў (канчаткі *-і, -ы, -е*); прыметнікі; другое спражэнне дзеяслова (цяперашні час); рознаспрагальныя дзеясловы.

3. З лексічнай тэмай *Сям'я. Харчаванне* падаецца вінавальны склон (без прыназоўніка і з прыназоўнікам) назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў; трыванне дзеясловаў (фармальныя прыкметы).

4. З лексічнай тэмай *Будзень* падаецца прыналежны займеннік *свой*; зваротныя дзеясловы; зваротны займеннік *сябе*.

5. З лексічнай тэмай *Памяшканне. Жыллё* падаецца месны склон назоўнікаў, займеннікаў, прыметнікаў; будучы час дзеясловаў.

6. З лексічнай тэмай *Пошта. Інтэрнэт* падаецца давальны склон назоўнікаў, займеннікаў, прыметнікаў; прошлы час дзеясловаў (семантычныя прыкметы); даўно мінулы час дзеясловаў (аналітычная форма).

7. З лексічнай тэмай *Магазін. Пакупкі* падаецца родны склон назоўнікаў, займеннікаў, прыметнікаў; умоўны лад дзеясловаў.

8. З лексічнай тэмай *Рынак. Пакупкі* падаецца родны склон назоўнікаў, займеннікаў, прыметнікаў (множны лік).

9. З лексічнай тэмай *Адпачынак* падаецца творны склон назоўнікаў, займеннікаў, прыметнікаў.

10. З лексічнай тэмай *Любімы занятак* падаецца ўзаемны займеннік, адмоўныя займеннікі і прыслоўі.

11. З лексічнай тэмай *Гігіена. Здароўе* падаецца загадны лад дзеяслова.

12. З лексічнай тэмай *Горад* падаюцца ступені параўнання прыслоўяў; дзеясловы руху (беспрыставачныя).

13. З лексічнай тэмай *Арыентацыя ў горадзе* падаюцца ступені параўнання прыметнікаў; дзеясловы руху (прыставачныя).

14. З лексічнай тэмай *Знакамітасці* падаюцца азначальныя і ўказальныя займеннікі; дзеясловы тыпу *садзіцца/сесці/сядзець*.

15. З лексічнай тэмай *Чалавек. Знешнасць* падаюцца прыналежныя займеннікі; дзеепрыметнікі.

16. З лексічнай тэмай *Чалавек. Рысы характару* падаецца дзеепрыслоўе.

17. З лексічнай тэмай *Замежныя камандзіроўкі* падаюцца зборныя лічэбнікі; няпэўныя займеннікі і прыслоўі.

18. З лексічнай тэмай *Надвор'е. Прырода* падаюцца безасабовыя дзеясловы; лічэбнікі паўтара, паўтары; рознаскланяльныя назоўнікі ніякага роду.

Т. Рамза імкнулася задаволіць патрэбы максімальна шырокага кола навучэнцаў: тых, хто хоча вывучыць мову з нуля, і тых, хто ў пэўнай ступені ўжо валодае ёю. Гэтая асаблівасць зразумелая ва ўмовах недахопу вучэбна-метадычных дапаможнікаў па беларускай мове як замежнай. Але, падаецца, што такая ўніверсальнасць не пайшла на карысць падручніку. Для пачаткоўцаў добра падыходзіць уводна-фанетычны курс, калі не лічыць яго занадта падрабязным, а практыкаванні асноўнага вучэбнага курса насычаны перыферыйнай лексікай, бракуе камунікатыўных дыялогаў, аўтэнтычныя тэксты для чытання і аўдыявання таксама складаныя для пачаткоўцаў.

У Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце на кафедры беларускай мовы і літаратуры ў 2011 годзе быў сфармаваны аўтарскі калектыў па стварэнні падручніка, а ў 2012 годзе ў Маскве пабачыў свет вучэбны дапаможнік *Белорусский язык для стран СНГ* [Паўлоўская і інш. 2012]. Падручнік накіраваны на дасягненне слухачамі базавага ўзроўню, ці ўзроўню мінімальнай камунікатыўнай дастатковасці валодання беларускай мовай як сродкам камунікацыі, а таксама на фармаванне міжкультурнай камунікатыўнай кампетэнцыі. Базавы набор маўленчых уменняў рэалізуецца ў пэўных камунікатыўных інтэнцыях, якія ахопліваюць усе аспекты беларускай мовы (фанетыку, лексіку, словаўтварэнне, ужыванне слоў (чытанне, аўдыяванне, гаварэнне, пісьмо і пераклад)). Вучэбны дапаможнік фармуе найважнейшыя параметры маўленчых здольнасцяў базавага ўзроўню: лагічную правільнасць пабудовы выказвання, граматычную правільнасць рэалізацыі выказвання, хуткасць рэалізацыі выказвання, адэкватную замену моўных сродкаў, варыятыўнасць у выбары моўных сродкаў пры выражэнні аднаго і таго ж сэнсавага зместу, моўную інтуіцыю, стылістычнае канструяванне і моўную эўрыстыку. Падручнік з'яўляецца двухмоўным: выкарыстоўваюцца руская і беларуская мовы. Падручнік мае наступную структуру: *Уводна-фанетычны курс*. Тлумачэнне падаецца на рускай мове, мэта – азнаямленне з фанетычнай сістэмай беларускай мовы, фармаванне навыкаў арфаэпіі, вуснага і пісьмовага маўлення. *Беларуская граматыка. Тэарэтычны курс* напісаны на рускай мове. Дае магчымасць навучэнцам атрымаць сістэмныя веды пра марфалогію і сінтаксіс беларускай мовы. Дадзены раздзел можа служыць даведачным матэрыялам для практычнага курса дапаможніка. *Беларуская мова. Практычны курс* – асноўны раздзел дапаможніка. Складаецца з 10 модуляў, кожны з якіх утрымлівае тэматычна аб'яднаныя комплексы: лексічны мінімум, вучэбны тэкст, маўленчыя, камунікатыўныя, граматычныя практыкаванні. Да практыкаванняў даюцца ключы. *Кароткі нарыс гісторыі беларускай мовы* напісаны па-беларуску, падае асноўныя этапы фармавання і развіцця беларускай мовы. У дапаможніку прадстаўлены аўтэнтычныя мастацкія тэксты для дадатковага чытання і кароткі беларуска-рускі слоўнік.

Аўтары паказалі сваё бачанне спалучэння лексікі і граматыкі.

1. *Знаёмства. Сям'я* спалучаецца з вывучэннем прошлага часу дзеясловаў; асабовых і прыналежных займеннікаў, зваротнага займенніка *сябе*.

2. *Біяграфія. Мая праца. Працоўны дзень* спалучаецца з вывучэннем цяперашняга (будучага простага) часу дзеясловаў.

3. *Партрэт. Характар. Знешнасць* спалучаецца з вывучэннем вінавальнага склону назоўнікаў і прыметнікаў; ступеняў параўнання прыметнікаў і прыслоўяў; прыналежнымі прыметнікамі.

4. *Адзенне. Крамы* спалучаецца з вывучэннем дзеясловаў руху; формаўтварэннем зваротных дзеясловаў; творнага склону назоўнікаў, займеннікаў, прыметнікаў.

Вольга Барысенка

5. *Нацыянальная кухня. Госці* спалучаецца з вывучэннем давальнага склону назоўнікаў, займеннікаў, прыметнікаў; трывання дзеяслова; скланення і ўжывання пытальных, адносных, няпэўных, адмоўных займеннікаў.

6. *Дом. Кватэра* спалучаецца з вывучэннем загаднага ладу дзеясловаў; роднага склону назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў.

7. *Святы* спалучаецца з вывучэннем спражэння дзеясловаў руху; месным склонам назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў.

8. *Стыль жыцця. Вольны час* спалучаецца з вывучэннем скланення рознаспрагальных назоўнікаў; скланеннем лічэбнікаў (колькасных і парадкавых, зборных і дробавых).

9. *Вандроўкі. Памятныя мясціны. Прырода* спалучаецца з вывучэннем умоўнага ладу дзеяслова; дзеепрыметнікамі.

10. *Горад* спалучаецца з вывучэннем дзеепрыслоўя.

Зноў-такі прыходзіцца прызнаць пэўныя недакладнасці выдання, абумоўленыя неакрэсленасцю мэтавай аўдыторыі навучэнцаў, імкненнем аўтараў у адным падручніку аб'яднаць некалькі ўзроўняў валодання мовай, падаць кароткую хрэстаматыю па гісторыі беларускай літаратуры. Р. Калета напісаў грунтоўную рэцэнзію на гэты дапаможнік, адзначыўшы як пэўныя недахопы выдання, так і метадычныя знаходкі, польскі даследчык акцэнтуе еўрапейскі ўзровень падачы матэрыялу ў падручніку. "Практычны матэрыял вельмі багаты і разнародны, гэта даказвае, што вывучэнне беларускай мовы можа быць нязвыкла павучальным, творчым, цікавым і – што асабліва важна сёння – прыемным" [Калета 2015: 641].

Такім чынам, найвялікшай праблемай, нявырашанай да сённяшняга дня ў вучэбна-метадычнай літаратуры па беларускай мове як замежнай, застаецца адсутнасць нарматыўнага, паслядоўнага і несупярэчлівага адукацыйнага моўнага стандарту для кожнага ўзроўню валодання, які б утрымліваў рэкамендацыі па адборы вучэбнага матэрыялу, адпаведную ім колькасць гадзін і крытэрыі ацэнкі ведаў навучэнцаў, лексічныя мінімумы для кожнага ўзроўню валодання. Таму задачай нумар адзін застаецца складанне паўзроўневай тыпавой праграмы навучання беларускай мове як замежнай, якая магла б карэляваць з еўрапейскай сертыфікацыйнай праграмай выкладання моў. На падставе стандартаў і праграмы ствараюцца паўзроўневыя вучэбныя комплексы. У выніку падрыхтаванай вучэбна-метадычнай базы можна весці гаворку пра сертыфікацыйны экзамен па беларускай мове як замежнай. Гэта дало б магчымасць студэнтам / стажорам / аматарам рэальна ацаніць сваё валоданне мовай, а выкладчыкам мець дакладныя лексіка-граматычныя арыенціры.

Вынікам праведзенага аналізу дапаможнікаў па беларускай мове для замежных навучэнцаў, аналізу тэхналогіі падачы граматычнага і лексічнага матэрыялу ў дадзеных дапаможніках з'яўляецца наступны тэзіс: у Беларусі маецца пэўная лінгвістычная і метадычная база выкладання беларускай мовы як замежнай. Падручнікі па беларускай мове як замежнай усё яшчэ далёкія ад дасканаласці, ад еўрапейскіх стандартаў выкладання замежнай мовы. Пра гэта сведчыць недастатковая колькасць камунікатыўных практыкаванняў для замацавання, іх аднатыпнасць, у частых выпадках выкарыстанне састарэлай лексікі і дыскурсаў, штучнасць і адарванасць ад рэальнасці падабраных тэкстаў. У пэўных выпадках дапаможнік хутчэй з'яўляецца даведачным матэрыялам для замежных навукоўцаў, якія займаюцца кампаратывістыкай, чым рэальным падручнікам для авалодання практыкай маўлення. Варта памятаць, што яшчэ ў 70-я гады XX ст. Савет Еўропы прапанаваў удасканаліць сістэму навучання замежным мовам. Асноўным падыходам быў прызнаны камунікатыўны сістэмна-дзейны падыход: "Нядзіўна, што дыдактычнай парадыгмай на сучасным этапе агульнапрызнана камунікатыўнае навучанне, арыентаванае на такую арганізацыю адукацыйнага працэсу, якая ўзнаўляе ўсе неабходныя ўмовы рэальнага кантактавання сродкамі вывучаемай замежнай мовы адэкватна працэсу камунікацыі, абмену інфармацыяй" [Бабинская 2010: 3].

Пры гэтым праведзены аналіз зроблены не толькі для крытыкі сённяшняй сітуацыі вучэбна-метадычнага комплексу беларускай

мовы як замежнай, а для аптымізацыі навучальнага працэсу, выпраўлення хібаў, вызначэння кірункаў навуковай і метадычнай працы.

### Літаратура

Аляксандраў С., Мыцык Г., 2008, *Гавары са мной па-беларуску. Гутарковая мова ў штодзённым ужытку*, Масква.

Бабинская П.К., 2010, *Коммуникативно ориентированное обучение иностранному языку*, “Замежныя мовы ў Рэспубліцы Беларусь”, № 4, с. 3-7.

Бэрд Т.Э., *Падручнікі перш за ўсё*, “Беларус”, № 194, Нью-Ёрк, с. 2.

Кривицкий А.А., Михневич А.Е., Подлужный А.И., 1973, *Белорусский язык для небелоруссов*, Минск.

Кривицкий А.А., Михневич А.Е., Подлужный А.И., 1990, *Белорусский язык для говорящих по-русски*, Минск.

Кривицкий А.А., Подлужный А.И., 1994, *Учебник белорусского языка для самообразования*, Минск.

Мыцык Г., 2015, *По-белорусски? Пожалуйста! = Па-беларуску? Калі ласка!*, Мінск.

Павловская Н.Ю., Борисенко О.В., Васюченко П.В., Кныш Л.С., Семенькевич О.В., Чеховский Г.К., 2012, *Белорусский язык для стран СНГ: учебник*, Москва.

Рамза Т.Р., 2010, *Беларуская мова? З задавальненнем! Для замежных навучэнцаў*, Мінск.

Садоўскі Я., 1973, *А.А. Кривицкий, А.Е. Михневич, А.И. Подлужный. Белорусский язык для небелоруссов. Рэцэнзія*, “Запісы”, № 15, с. 127-128.

Сямешка Л.І., Бадзевіч З.І., Белакурская Ж.А., Ляшук В.М., Пацехіна А.А., Рамза Т.Р., Чахоўскі Г.К., Шкраба І.Р., 1999, *Гаворым па-беларуску. Вучэбны дапаможнік па беларускай мове для замежных навучэнцаў*, пад рэд. Л. Сямешкі, Мінск.

Kaleta R., 2015, *Н.Ю. Павловская, О.В. Борисенко, П.В. Васюченко, Л.С. Кныш, О.В. Семенькевич, Г.К. Чеховский, Белорусский язык для стран СНГ: учебник, Москва 2012, ss. 452*, “Studia Wschodniosłowiańskie”, т. 15, с. 637-641.

Pashkievich V., 1974, *Fundamental Byelorussian = Беларуская мова. Book 1*, ed. by A. Adamovich, Toronto.

Pashkievich V., 1978, *Fundamental Byelorussian = Беларуская мова. Book 2*, ed. by A. Adamovich, Toronto.

**Агата Ракава**

Мінск

# Электронны навучальны курс па беларускай мове як замежнай

### Рэзюмэ

**Электронны навучальны курс па беларускай мове як замежнай, змешчаны ў раздзеле Асновы на сайце by.lang-study.com, – гэта спроба стварэння дыстанцыйнага курса для авалодання мовай на пачатковым узроўні. Рэсурс скіраваны да карыстальнікаў, якія валодаюць рускай мовай. Складаецца з пятнаццаці ўрокаў па разнастайных камунікатыўных і лексічных тэмах, утрымлівае кароткі ўводна-фанетычны курс. Прыклад урока прадстаўлены ў артыкуле. Рэсурс ілюстраваны, прадугледжвае выкананне больш як 100 практыкаванняў on-line.**

### Abstract

***E-learning Course in Belarusian as a Foreign Language***

**E-learning course in Belarusian as a foreign language available on by.lang-study.com is an attempt to create a distance learning course for beginners. It is aimed at Russian-speaking users. The course consists of fifteen lessons on different communicative and grammatical topics and starts with a short introductory phonetic course. The example of a lesson is presented in the article. The resourse has illustrations and 100 exercises on-line.**

Агата Ракава

Інтэрнэт-камунікацыя становіцца адной са сфер, у якіх актыўна функцыянуе беларуская мова. Гэта пацвярджаецца, напрыклад, даследаваннямі венгерскага лінгвіста і матэматыка Андраша Корная, які ў сваёй працы *Лічбавая смерць моў* залічыў беларускую да “безумоўна жывых” [Kornai 2013], у той час як паводле класіфікацыі ЮНЭСКА беларуская мова належыць да катэгорыі “Мовы пад патэнцыйнай пагрозай знішчэння” [Moseley 2010]. Развіццё інтэрнэт-тэхналогій стварае выдатныя магчымасці і для вывучэння беларускай мовы як замежнай.

На жаль, пакуль не існуе рэсурсаў для вывучэння беларускай мовы, што дазволілі б аваладаць рознымі моўнымі і маўленчымі аспектамі ў комплексе. Большасць рэсурсаў тэкстаграфічныя, неілюстраваныя, у іх практычна адсутнічаюць практыкаванні, што можна выканаць ан-лайн. Тым не менш, наяўнасць такіх рэсурсаў можа сведчыць пра цікавасць замежнікаў да беларускай мовы.

Пад навуковым кіраўніцтвам кандыдата тэхнічных навук Вольгі Яўгенаўны Елісеевай у межах дыпломнага праекту мы паспрабавалі стварыць электронны навучальны курс па беларускай мове як замежнай на пачатковым узроўні валодання. Рэсурс даступны на сайце by.lang-study.com у раздзеле *Асновы* (http://by.lang-study.com/category/asnovy/). У артыкуле прадстаўлены толькі створаны намі курс, не разглядаюцца іншыя раздзелы сайта, дзе змешчаныя электронныя матэрыялы па беларускай мове, створаныя групай студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ.

Курс адрасаваны карыстальнікам, якія валодаюць рускай мовай. Такая скіраванасць абумоўленая шэрагам прычын. Па-першае, у Беларусі рускія з’яўляюцца другой па колькасці этнічнай групай пасля беларусаў. Па-другое, руская мова сёмая ў свеце і першая ў Еўропе па колькасці карыстальнікаў у інтэрнэце [Internet world stats 2014]. Па-трэцяе, беларуская мова можа быць аб’ектам зацікаўленасці даследчыкаў усходнеславянскіх моў, якія часцей за ўсё валодаюць рускай мовай. Па-чацвёртае, курс можа выкарыстоўвацца ў Беларусі для працы з замежнымі студэнтамі, якія атрымліваюць адукацыю пераважна па-руску. Урэшце, па-пятае, рэсурс можа выкарыстоўвацца для навучання мове беларусаў. Створаныя тры версіі курсу: па-беларуску, па-беларуску з перакладам на рускую мову і па-беларуску з націскамі.

Курс падзелены на пятнаццаць урокаў. Першы ўрок уводна-фанетычны, прадстаўляе правілы вымаўлення і чытання. Асаблівая ўвага звяртаецца на гукі, што адсутнічаюць у рускай мове. Асноўныя фанетычныя законы беларускай мовы (аканне і яканне, дзеканне і цеканне, ужыванне ў нескладовага) прадстаўленыя ў другім уроку. Наступныя ўрокі аб’яднаныя сюжэтнай лініяй: група школьнікаў і іх бацькоў едзе на экскурсію ў горад Заслаўе. Дынамічны сюжэт, розны ўзрост і статус герояў дазваляюць ахапіць розныя камунікатыўныя сітуацыі. Ніжэй прадстаўлены кароткі пералік лексічных і граматычных тэм па ўроках. Адзначым, што мы імкнуліся да комплекснага вывучэння лексікі і граматыкі, адпаведным чынам дапасоўваючы камунікатыўныя і граматычныя тэмы.

3-і ўрок: асноўныя формулы ветлівасці. 4-ы ўрок: горад; назоўны склон. 5-ы ўрок: зацікаўленасці; вінавальны склон. 6-ы ўрок: прафесіі; творны склон. 7-ы ўрок: называнне часу; лічэбнікі. 8-ы ўрок: тыповы дзень; цяперашні час дзеясловаў. 9-ы ўрок: ежа; родны склон. 10-ы ўрок: падарожжы; прошлы час дзеяслова. 11-ы ўрок: адпачынак і планы на будучыню; будучы час дзеяслова. 12-ы ўрок: апісанне памяшканняў; месны склон. 13-ы ўрок: святы. 14-ы ўрок: крама; лічэбнікі, змяненне слова *павінен*. 15-ы ўрок мае падагульняльны характар, навучэнцам прапануецца выканаць выніковы тэст.

Выбар тэм ажыццяўляўся на аснове аналізу выдання *Тэст па беларускай мове як замежнай. Пачатковы ўзровень. Агульнае валоданне* [Барысенка і інш. 2014].

Большасць урокаў пабудаваныя па наступнай схеме: навучальны тэкст, слоўнік да тэксту (слоўнік змешчаны пасля тэксту ў аднамоўнай беларускай версіі курса, перад тэкстам – у двухмоўнай беларуска-рускай версіі), заданні паводле тэксту, практыкаванні па лексіцы, граматычныя табліцы з каментарамі, лексіка-граматычныя практыкаванні.

Усяго для курса было створана 12 навучальных тэкстаў, больш як 100 практыка-

ванняў розных тыпаў (заданні на запаўненне пропускаў, на пошук адпаведнасцяў, на выбар правільнага адказу, на размяшчэнне элементаў у правільнай паслядоўнасці, крыжаванкі). Адзначым, што практыкаванні можна выканаць ан-лайн, на сайце забяспечаная простая праверка, прадугледжаная магчымасць убачыць правільны адказ. Выкарыстана 16 аўдыё- і 17 відэазапісаў, частка гуказапісаў зробленая намі.

Прывядзем прыклад аднаго з урокаў. Практыкаванні падаюцца з правільнымі адказамі. У заданнях на запаўненне прабелаў правільныя адказы выдзеленыя, у заданнях на пошук адпаведнасцяў прадстаўленыя ў правільных спалучэннях.

Урок 9 Смачна есці!

*Прачытайце тэкст*

*Яраш: Вы ўжо бачыце белую вежу старога касцёла. Каля яго мы павернем направа і пойдзем у музей міфалогіі і лесу.*

*Максім: Клас майго старэйшага брата таксама ездзіў у Заслаўе. Брат расказваў мне, што ў гэтым музеі можна паслухаць галасы дзікіх звяроў і лясных птушак!*

*Вераніка: А я чула, што там ёсць фігуры розных духаў, у якіх раней верылі беларусы: лесавіка, вадзяніка, дамавіка…*

*Максім: А яшчэ брат расказваў мне, што там ляжаць бліны і кілбасы, але яны несапраўдныя і іх нельга есці.*

*Вераніка: Толькі не кажы, што ты ўжо хочаш есці!*

*Максім: Вядома, што хачу! І чаму я не захапіў нічога з аўтобуса? У мяне ж там пачак майго любімага печыва, бутэлька апельсінавага соку і цэлы пакет розных бутэрбродаў! Вераніка, у цябе няма з сабой бутэрброда? Альбо хаця б цукеркі?*

*Вераніка: У мяне ёсць толькі бутэлька мінеральнай вады.*

*Максім: Проста вады? Яна хаця б газаваная?*

*Вераніка: Не, я не люблю газаваную ваду. А яшчэ я думаю, што ты пацерпіш да абеду. Пасля музея мы адразу пойдзем есці. Я хачу грыбны суп і дранікі. І кубачак цёплай гарбаты з лімонам, але без цукру.*

*Максім: Я такі галодны, што з’ем спачатку міску гарохавага супу, а потым яшчэ міску баршчу. Яшчэ я хачу шмат-шмат смажанай бульбы і катлету са свініны ці ялавічыны. А пасля я вып’ю тры шклянкі кампоту альбо соку і паласуюся булачкай ці піражным…*

*Вераніка: Максім, мы ўжо падышлі да музея!*

Прыклад афармлення тэксту, ілюстрацый да тэксту:

Дзявяты ўрок – Смачна есці!

Прачытайце тэкст










Міні-слоўнік

ве́жа – башня

пту́шка – птица

лесаві́к – леший

вадзяні́к – водяной

дамаві́к – домовой

кілбаса́/каўбаса́ – колбаса

несапра́ўдны – ненастоящий

не́льга – нельзя

вядо́ма – понятно, ясно, ясное дело

захапі́ць – захватить

Агата Ракава

па́чак – пачка

пе́чыва – печенье

няма́ – нет

цуке́рка – конфета

ку́бак – чашка

гарба́та – чай

цу́кар – сахар

сма́жаны – жареный

я́лавічына – говядина

пала́савацца – полакомиться

*Практыкаванне 1*

*Адкажыце на пытанні паводле тэксту*

*У які музей ідзе група? Музей міфалогіі і лесу.*

*Хто вельмі хоча есці? Максім.*

*Што пакінуў Максім у аўтобусе? Пачак печыва, бутэльку соку і пакет бутэрбродаў.*

*Што хоча з'есці на абед Вераніка? Грыбны суп і дранікі.*

*Што Вераніка будзе піць? Кубак цёплай гарбаты з лімонам.*

*Практыкаванне 2*

*Разгадайце крыжаванку*



*Агата Ракава*

Граматычная табліца і каментарыі па тэме *Родны склон назоўніка і прыметніка*

| лік | род | канчаткі прыметнікаў | канчаткі назоўнікаў | прыклады |
|---|---|---|---|---|
| адзіночны | мужчынскі (адушаўлёныя назоўнікі) | -ага/-ога (калі націск у назоўным склоне падае на канчатак) | -а | клас старэйшага брата<br>машынка малога хлопчыка |
| | мужчынскі (неадушаўлёныя назоўнікі) | -ага/-ога | -а/-у* | вежа старога касцёла<br>бутэлька апельсінавага соку |
| | ніякі | -ага/-ога | -а | пачак любімага печыва |
| | жаночы | -ай/-ой | -ы/-і | кубачак цёплай гарбаты<br>сабачка малой дзяўчынкі |
| множны | мужчынскі і ніякі | -ых/-іх (пасля г, к, х) | -аў/-оў (у аднаскладовых назоўнікаў) / -ей/-эй | пакет розных бутэрбродаў<br>галасы дзікіх звяроў<br>няма вольных месцаў<br>шмат добрых людзей |
| | жаночы | | -_ (можа з’яўляцца беглы галосны) /-аў**/ -эй | галасы лясных птушак<br>час белых начэй |

** Канчатак -а набываюць канкрэтныя назоўнікі, канкрэтныя тэрміны і паняцці, назвы мераў, геаграфічныя назвы, а таксама ўсе назоўнікі з памяншальнымі суфіксамі.*

*Канчатак -у маюць назоўнікі, што абазначаюць рэчывы, зборы прадметаў, абстрактныя паняцці.*

*Выбар канчатку роднага склону для назоўнікаў мужчынскага роду – адна з цяжкасцяў беларускай мовы. У складаных выпадках варта звярнуцца да слоўніка.*

***У беларускай мове існуюць варыянтныя формы з нулявым канчаткам і канчаткам -аў: сіл – сілаў, кароў – кароваў і г. д. Канчатак -аў амаль не ўжываецца ў выпадку з’яўлення беглай галоснай (міска – місак, шклянка – шклянак), пасля г, к: ног, навук.*

*Практыкаванне 3*

*Злучыце малюнкі са словамі*

| | | | |
|---|---|---|---|
| палова | | бляшанка | |
| чвэрць | | літр | |
| кавалак | | кілаграм | |
| бутэлька | | пакет | |
| слоік | | лыжка | |

*Слоўнічак да практыкаванняў*

напо́й – напиток

ка́ва – кофе

тлу́сты – жирный

цыбу́ля – лук

Агата Ракава

*Практыкаванне 4*

*Складзіце словазлучэнні паводле ўзору: бутэлька вады*

| | |
|---|---|
| шклянка | соку, напою |
| пачак | печыва |
| лыжка | цукру |
| кубак | кавы |
| кілаграм | бульбы, агуркоў |
| міска | супу |
| кавалак | хлеба |

*Практыкаванне 5*

*Утварыце формы роднага склону*

*Мікалай Мікалаевіч збіраецца ў краму. Жонка склала спіс прадуктаў, якія ён павінен купіць.*

- *пакет малака (малако)*
- *слоічак смятаны (смятана)*
- *пачак тлустага тварагу (тлусты тварог)*
- *палова батона (батон)*
- *чвэрць "Нарачанскага" хлеба ("Нарачанскі" хлеб)*
- *восем сасісак (сасіскі)*
- *кілаграм свініны (свініна)*
- *кавалак сала (сала)*
- *пачак зялёнай гарбаты (зялёная гарбата)*
- *бутэлька чырвонага віна (чырвонае віно)*
- *кілаграм невялікіх памідораў (невялікія памідоры)*
- *пучок кропу або пятрушкі (кроп або пятрушка)*
- *паўкіло чырвонай цыбулі (чырвоная цыбуля)*
- *пяць вялікіх шакаладных цукерак (вялікія шакаладныя цукеркі) для дзяцей (дзеці)*
- *пачак корму (корм) для ката (кот)*

*Практыкаванне 6*

*Прачытайце тэкст і адкажыце на пытанні паводле ўзору.*

*Вось мая сям'я. Мама сёння купіла новую сумку. Тата зноў рамантуе машыну. Мой старэйшы брат гуляе ў футбол, а маленькая сястра смяецца і бегае па двары. Бабуля корміць ката, а дзядуля, як заўсёды, чытае.*

*Адкажыце на пытанні паводле ўзору:*

*Чыя гэта кніга? – Гэта кніга майго дзядулі.*

*Чый гэта сцяжок? – Гэта сцяжок маёй сястры.*

*Чый гэта мяч? – Гэта мяч майго брата.*

*Чыя гэта сумка? – Гэта сумка маёй мамы.*

*Чый гэта кот? – Гэта кот маёй бабулі.*

*Чые гэта акуляры? – Гэта акуляры майго дзядулі.*

*Чыя гэта машына? – Гэта машына майго таты.*

*Чыё запаснае кола ляжыць каля машыны? – Гэта кола майго таты.*

*Прыктыкаванне 7*

*Упішыце правільныя формы займеннікаў мой і чый*

*Узор: Чыя гэта машына? – Маіх калег*

*Чыя гэта кніга? – Майго брата.*

*Чый гэта тэлефон? – Маёй сястры.*

*Чый гэта суп? – Майго сябра.*

*Чые гэта дзеці? – Маёй настаўніцы.*

*Чыё гэта акно? – Маіх суседзяў.*

*Чыя гэта лямпа? – Маёй жонкі.*

*Чыя гэта ежа? – Майго ката.*

*Практыкаванне 8*

*Дапоўніце тэкст назвамі краін і гарадоў. Назвы краін вы можаце пабачыць на нашай інтэрактыўнай мапе (мапа Еўропы, пры навядзенні мышкі на краіну з'яўляецца назва).*

*Прывітанне! Я Андрусь. Я з Беларусі. Мае сябры жывуць у розных краінах.*

| | |
|---|---|
| Джон з Вялікабрытаніі. | |
| Геральд з Германіі. | |
| Бланш з Францыі. | |
| Франчэска з Італіі. | |
| Пшэмык з Польшчы. | |
| Лейфур з Ісланды. | |
| Рада з Балгарыі. | |

*Прывітанне, сябры! Раскажыце, калі ласка, адкуль вы. З якога горада?*

*Лейфур: я жыву ў сталіцы нашай краіны.*

*Геральд: У маім горадзе знаходзіцца самы вялікі гатычны сабор.*

*Бланш: у маім горадзе знаходзіцца Эйфелева вежа.*

*Франчэска: у маім горадзе таксама ёсць славутая вежа. Яна крывая.*

*Рада: я жыву ў сталіцы, як і Лэйфур.*

*Пшэмык: а мой горад стаіць на моры і па-нямецку называецца Данцыг.*

*Адкуль яны?*

*Лейфур з Рэйк'явіка.*

*Геральд з Кёльна.*

*Бланш з Парыжа.*

*Франчэска з Пізы.*

*Рада з Сафіі.*

*Пшэмык з Гданьска.*

*Практыкаванне 9*

*Прачытайце меню і запоўніце пропускі*

*Словы для даведкі: гарачыя стравы з птушкі, напоі, дэсерты, гарачыя стравы з рыбы, гарніры.*

| Супы | Гарачыя стравы з птушкі | Гарачыя стравы з рыбы |
|---|---|---|
| грыбны<br>фасолевы<br>боршч<br>халаднік | курынае філе ў сыры<br>шашлычкі з індыка<br>фаршыраваная курыца | судак па-нёманску<br>філе сёмгі<br>запечаная стронга |
| Гарніры | Дэсерты | Напоі |
| смажаная бульба<br>рыс<br>грэчка<br>квяцістая капуста | пірог з яблыкамі<br>блінчыкі з мёдам<br>марожанае | гарбата<br>кава<br>віно<br>піва |

*Практыкаванне 10 (практыкаванне заснаванае на іміджавым ролiку Белтэлерадыёкампаніі* Гатуем разам*)*

*Паглядзіце відэа і выканайце практыкаванне*

*Што неабходна, каб прыгатаваць дранікі? Размяркуйце словы па двюх групах: прадукты і посуд.*

| | |
|---|---|
| бульба, цыбуля, крухмал, соль, кроп, алей, соль, смятана | прадукты |
| тарка, сіта, патэльня, шуфлік | посуд |

Электронны навучальны курс даступны на сайце by.lang-study.com у раздзеле Асновы (http://by.lang-study.com/category/asnovy/). Дадзены рэсурс з'яўляецца дастаткова поўным і можа выкарыстоўвацца для самастойнага вывучэння беларускай мовы. Тым не менш, неабходная і далейшая грунтоўная праца над праектам, яго моўнае, метадычнае, тэхнічнае ўдасканаленне. Мы запрашаем усіх зацікаўленых асоб далучыцца да апрабацыі курсу і чакаем водгукаў, каментароў, заўваг і прапаноў, што дапамогуць палепшыць прадстаўлены рэсурс.

**Літаратура**

Барысенка В., Кныш Л., Куліковіч У., Літвіноўская А., Рамза Т., Семянькевіч А., 2014, *Тэст па беларускай мове як замежнай. Пачатковы ўзровень. Агульнае валоданне*, Мінск.

*Internet users in Europe*, 2014, *Internet world stats*, http://www.internetworldstats.com/stats4.htm [доступ: 22.03.2015].

Kornai A., 2013, *Digital Language Death*, PLOS ONE http://journals.plos.org/plosone/article?id=10.1371/journal.pone.0077056

Moseley C. (рэд.), 2010, *Atlas of the World's Languages in Danger*, Paris, http://www.unesco.org/languages-atlas/en/atlasmap.html#.[доступ: 22.03.2015].

**Аксана Семянькевіч**

Мінск

# Выкладанне беларускай мовы як замежнай у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце

**Рэзюмэ**

**У артыкуле аналізуюцца метады і тэхналогіі, якія выкарыстоўваюць выкладчыкі кафедры беларускай мовы і літаратуры МДЛУ у практыцы выкладання беларускай мовы як замежнай; прапануецца аўтарскае бачанне паўнавартаснай рэалізацыі адукацыйнай паслугі *Беларуская мова як замежная*.**

**Abstract**

***Teaching Belarusian as a foreign language at Minsk State Linguistic University***

**The methods and techniques that the teachers from the department of the Belarusian language and literature at Minsk State Linguistic University use in teaching Belarusian as a foreign language are analyzed in the article; the author's vision of the educational service *Belarusian as a foreign language* full implementation is proposed.**

У апошнія два дзесяцігоддзі ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце з'явілася новая адукацыйная паслуга – выкладанне беларускай мовы для замежных навучэнцаў. Дысцыпліна *Беларуская мова як замежная* (БМЗ) рэалізуецца выкладчыкамі кафедры беларускай

мовы і літаратуры ў фармаце індывідуальных заняткаў. Да гэтага часу гэтай паслугай скарысталіся грамадзяне Расіі, ЗША, Канады, Іспаніі, Галандыі, Германіі, Кітая. Акрамя таго, для замежных студэнтаў, якія атрымліваюць адукацыю ў МДЛУ, арганізаванае абавязковае вывучэнне беларускай мовы. Гэтая дысцыпліна выкладаецца на 1 курсе, для яе рэалізацыі быў распрацаваны і зацверджаны вучэбна-метадычны комплекс, арыентаваны на сучасныя метады выкладання замежных моў.

Для забеспячэння якасці адукацыйнай паслугі БМЗ выкладчыкамі кафедры і кіраўніцтвам універсітэта вядзецца шматпланавая праца ў наступных кірунках. Усе выкладчыкі кафедры бяруць удзел у стварэнні навукова-метадычнай і навукова-лінгвістычнай базы дысцыпліны БМЗ. З гэтай мэтай на кафедры распрацоўваюцца навуковыя тэмы *Лінгвістычныя, культуралагічныя, метадычныя асновы вывучэння і выкладання беларускай мовы як замежнай* і *Вывучэнне праблем мовазнаўчай і літаратуразнаўчай кампаратывістыкі ў сістэме лінгвістычнай адукацыі студэнтаў*, у рэчышчы праблематыкі лінгвадыдактыкі і кампаратывістыкі прапануюцца тэмы курсавых, дыпломных, магістарскіх і дысертацыйных даследаванняў. Для забеспячэння навучальнага працэсу па дысцыпліне на кафедры былі створаны падручнікі *Белорусский язык для стран СНГ* [Паўлоўская і інш. 2012] і *Беларуская мова для пачаткоўцаў* [Барысенка і інш. (у друку)]. Выкладчыкі кафедры ўдзельнічаюць у міждысцыплінарных універсітэцкіх праектах па складанні перакладных слоўнікаў актуальнай лексікі, у канферэнцыях па праблемах методыкі выкладання БМЗ, якія ўсё часцей уключаюцца ў тэматычнае поле рэспубліканскіх навуковых мерапрыемстваў. Для ўдасканалення метадычна-практычнага досведу і прэзентацыі сваіх магчымасцяў выкладчыкі кафедры працавалі ў летняй школе беларусістыкі на базе РІВШ, разам з выкладчыкамі іншых УВА рэспублікі ўдзельнічалі ў пілотным праекце па стварэнні ўзроўневых тэстаў [гл. Барысенка і інш. 2014] па беларускай мове як замежнай па ініцыятыве ТБМ імя Францыска Скарыны. Для падрыхтоўкі педагагічных кадраў для выкладання БМЗ ва ўніверсітэце функцыянуе спецыялізацыя *Беларуская мова і літаратура*.

Хацелася б падрабязней спыніцца на праблеме лінгваметадычных тэхналогій, якія выкарыстоўваюць выкладчыкі кафедры ў сваёй працы. І індывідуальныя заняткі, і заняткі ў групе для замежных студэнтаў на 1 курсе прадугледжваюць невялікую колькасць аўдыторных гадзін за кароткі прамежак часу. Часта кароткатэрміновы фармат вывучэння замежных моў называюць інтэнсівам. У лінгвадыдактыцы нават ёсць такая аксіёма: кароткатэрміновы курс можа быць толькі інтэнсіўным. Але трэба ўсё ж разабрацца, ці варта лічыць методыку выкладання беларускай мовы па індывідуальных праграмах у МДЛУ інтэнсіўнай.

За апошнія 50 гадоў у розных краінах і ў розны час узнік цэлы шэраг новых метадаў навучання замежным мовам, якія мы ведаем пад агульнай назвай як інтэнсіўныя метады навучання. Усе яны з'яўляюцца агульным адказам методыкі на сацыяльны заказ сучаснага грамадства. Гэтыя метады сталіся альтэрнатывай традыцыйнага навучання, калі ведам пра мову надаецца большае значэнне, чым уменням і навыкам у самой мове, і калі валоданне вусным маўленнем носіць другасны падпарадкаваны характар, а не з'яўляецца ўмовай стварэння навыкаў чытання і пісьма. Новыя метады абапіраюцца на дасягненні ў нейрафізіялогіі, псіхалогіі, тэорыі інфармацыі, псіхалінгвістыкі і псіхагігіены. Вынікам такога сінтэзу стаў сугестапедычны напрамак у педагогіцы, заснаваны на тэорыі сугестыі балгарскага псіхатэрапеўта Георгія Лазанава. На паняцці сугестыі як сродку непрамога (камунікатыўнага, несвядомага) уздзеяння на чалавека, як сродку актывізацыі яго рэзервавых псіхічных магчымасцяў у навучальным працэсе заснаваныя сучасныя інтэнсіўныя методыкі. Зразумела, што такія метады патрабуюць прынцыпова новых падыходаў да арганізацыі навучальнага працэсу, арганізацыі вучэбных матэрыялаў і падрыхтоўкі спецыялістаў. Сутнасць інтэнсіўных метадаў навучання замежным мовам можна звесці да фомулы: моўная камунікацыя, моўныя зносіны з'яўляюцца адначасова і галоўнай мэтай, і сродкам навучання. Іншымі словамі, мэта інтэнсіўнага метаду – навучыць навыкам аўдыявання і маўлення з выкарыстаннем вялікага (велізарнага ў параўнанні з традыцыйнымі метадамі) лексічнага матэрыялу за кароткі прамежак часу (адносна кароткі,

Аксана Семянькевіч

адносна традыцыйных метадаў). Пры гэтым высокая эфектыўнасць дасягаецца пры мінімальных энергетычных выдатках навучэнцаў.

Асаблівых каментарыяў патрабуе палажэнне аб кароткачасовасці інтэнсіву. Шмат матэрыялу, сцiслыя тэрміны і энергічныя паводзіны выкладчыка – гэта яшчэ не інтэнсіўны курс. Вядомыя інтэнсіўныя курсы, якія засведчылі сваю эфектыўнасць, як правіла, складаюцца з 240 – 300 аўдыторных гадзін. Большасць з іх мае некалькі ўзроўняў (як мінімум, пачатковы і прасунуты). Інтэнсівы могуць адрозніваца працягласцю курса і канцэнтрацыяй гадзін на тыдзень, тым не менш прадугледжваецца дастаткова значная колькасць аўдыторнага часу. Такім чынам, лічбы гавораць пра тое, што інтэнсіўны курс вывучэння замежнай мовы (у тым разуменні тэрміна, які ўкладваецца ў гэтае паняцце аўтарамі гэтых методык) зусім не прадугледжвае формулу “многа і хутка за зусім кароткі час”. Параўнаем лічбы. Самая вялікая колькасць гадзін індывідуальнага курса, які мелі выкладчыкі кафедры ў сваёй практыцы, – 80. Праграма дысцыпліны БМЗ для пачаткоўцаў на 1 курсе складаецца з 30 аўдыторных гадзін. Такім чынам, паводле фармальных параметраў арганізацыя навучальнага працэсу, які мы маем у практыцы выкладання БМЗ у МДЛУ, не з’яўляецца інтэнсіўным курсам. Праўда, хацелася б зазначыць, што інтэнсівы адпачатку былі зарыентаваныя на фармат моўных курсаў, і да гэтага часу працягваюцца дыскусіі, наколькі гэтая методыка ў прынцыпе магчымая ці немагчымая (нават часткова) у практыцы выкладання замежных моў у іншых фарматах. Тым не менш перадусім інтэнсіўны курс прадугледжвае прынцыпова новую методыку прэзентацыі моўнага матэрыялу і арганізацыі навучальнага працэсу. Што ж найперш закладваецца ў паняцце інтэнсіву?

Інтэнсіфікаванасць навучання разглядаюць як інтэграваную ўласцівасць, якая мае наступныя складнікі: аб’ём засвоенага матэрыялу (многа), колькасць і варыятыўнасць прыёмаў, шчыльнасць камунікацыі, актывізацыя псіхічных рэзерваў асобы. Сыходзячы з аналізу практыкі выкладання замежных моў у фармаце інтэнсіўных методык, можна вылучыць наступныя найбольш важныя прыкметы інтэнсіўнага курса:

1. Галоўная мэта – навучыць размаўляць на чужой мове, зняўшы псіхалагічныя бар’еры. Курс не ставіць на мэце засваенне сістэмы мовы. Аднак гэта зусім не значыць, што граматыка не вывучаецца. У інтэнсіўным курсе граматыка з’яўляецца не мэтай, а сродкам для вырашэння задач моўнай камунікацыі. Пры адборы граматычных з’яў выкладчык найперш улічвае іх камунікатыўную каштоўнасць, а не сістэмнасць або звыклую паслядоўнасць. Прынцыпова адрозніваюцца і прыёмы засваення граматыкі. Традыцыйная схема – тлумачэнне, трэніроўка, маўленчая практыка – у інтэнсіве адсутнічае. Граматычная форма ўспрымаецца на слых і засвойваецца падчас камунікатыўнай практыкі з яе выкарыстаннем.

2. Моўны матэрыял прэзентуецца ў форме тэкстаў-дыялогаў або тэкстаў-палілогаў, часта са скразным сюжэтам. Адзінкай найвышэйшага парадку ў арганізацыі матэрыялу з’яўляецца камунікатыўная сітуацыя, прычым максімальна жыццёвая. Засваенне лексікі адбываецца шляхам пашырэння слоўніка маўлення за кошт пашырэння слоўніка аўдыявання. Інтэнсіўнае навучаннне прадугледжвае комплексна-паралельнае развіццё ўсіх відаў маўленчай дзейнасці, практычна адначасовую выпрацоўку навыкаў і ўменняў аўдыявання і маўлення з нязначнай адтэрміноўкай у часе для навыку чытання і пісьма.

3. Усе заданні падпарадкаваныя камунікатыўнай задачы і з’яўляюцца абавязкова поліфункцыянальнымі. У аснове ўсіх поліфункцыянальных практыкаванняў – нейкая інтэнцыя (маўленчы намер), выражэнне якой у адпаведнасці з заданнем патрабуе выкарыстання адпаведнай граматычнай формы і лексічнага напаўнення. Поліфункцыянальнасць практыкавання заключаецца таксама ў тым, што яно адначасова накіраванае на фармаванне некалькіх навыкаў, якія знаходзяцца на розных стадыях станаўлення. Імкненне выкладчыкаў адпрацаваць на занятках нейкую граматычную з’яву да ўзроўню навыку, а пасля перайсці да іншага, не адпавядае канцэпцыі інтэнсіўнага курса.

4. Навучанне адбываецца толькі ў групах. Калектыўная дзейнасць прызнаецца абавязко-

вай умовай актывізацыі рэзервавых магчымасцяў чалавека (праца ў парах, трыядах, мікрагрупах, камандах). Такія формы калектыўнай дзейнасці сучаснай лінгвадыдактыкай прызнаюцца бясспрэчна пераважнымі паводле эфектыўнасці ў параўнанні з традыцыйнымі індывідуальна-франтальнымі формамі працы выкладчыка. Партнёры ў навучальным узаемадзеянні становяцца вельмі важным каналам авалодання мовай.

5. Ролевая арганізацыя вучэбнага матэрыялу і навучальнага працэсу. Інтэнсіўны курс – гэта адна вялікая, добра арганізаваная гульня. Размова ідзе не толькі і не столькі пра выкарыстанне лінгвістычных гульнёвых заданняў на занятках, колькі пра арганізацыю навучальнага працэсу ў цэлым. Інтэнсіўная методыка прадугледжвае, што кожны навучэнец набывае сваю ролю (маску, легенду) і ў адпаведнасці з гэтай роляй выконвае свае сацыяльныя абавязкі згодна з камунікатыўнай сітуацыяй (турысты, спартсмены, удзельнікі форуму, група валанцёраў, пакупнікі ў краме і г. д.). Такая роля ў працэсе навучання дае велізарны псіхатэрапеўтычны эфект, менавіта ролевыя гульні здымаюць тыя псіхалагічныя бар'еры, якія замінаюць размаўляць на чужой мове. Адначасова змена роляў у групе з'яўляецца і метадычным прыёмам, бо лексіка-граматычная і фанематычная арганізацыя роляў удзельнікаў групы дазваляе апрацоўваць і лексіку, і граматычныя канструкцыі, ставіць у сэнсавую апазіцыю фанемы і шматразова паўтараць іх у жыццёвых сітуацыях. Для выкладчыка камунікацыя ў форме гульні – гэта найперш стымул для вырашэння навучальных задач, а для навучэнцаў – гэта натуральная ўмова засваення навучальнага матэрыялу. Зразумела, што ролевыя гульні павінныя адпавядаць інтарэсам і інтэлектуальнаму ўзроўню развіцця навучэнцаў, ролі мусяць быць пазітыўныя і сацыяльна прэстыжныя, бо прымітыўнае разуменне гульні вядзе да інфантылізацыі навучання, да спрашчэння камунікатыўных задач, і, у выніку, да зніжэння творчага ўзроўню навучання. Прынцып ролевай арганізацыі навучання тычыцца не толькі самога навучальнага працэсу, але і вучэбнага матэрыялу. Тэксты-дыялогі і тэксты-палілогі, якія ў інтэнсіўным курсе з'яўляюцца асновай моўнага матэрыялу, прадугледжваюць абавязковае размеркаванне па ролях.

6. Арганізацыя навучальнага працэсу часта носіць рытуальны характар, заклікаcontainsны максімальна выкарыстаць псіха-эмацыйныя рэзервы памяці навучэнцаў. Інтэнсіўныя методыкі заснаваныя не столькі на лагічных спосабах успрымання і пазнання, колькі на псіха-эмацыйных з мэтай актывізацыі працэсаў засваення. Уся атмасфера заняткаў арганізуецца такім чынам, што засваенню чужой мовы спадарожнічаюць толькі станоўчыя эмоцыі. Інтэнсіўнае навучанне разглядае авалодванне навыкамі камунікацыі на чужой мове як сацыяльна-псіхалагічную задачу. Добразычлівасць, падтрымка, адабрэнне, узаемадапамога, мяккі гумар, заахвочванне, суперажыванне – гэта атмасфера заняткаў інтэнсіўнага курса.

З аналізу вышэйназваных прыкмет інтэнсіўных методык вынікае, што ў сваёй практыцы выкладання БМЗ ў МДЛУ мы не можам іх выкарыстоўваць як прыярытэтныя. Першая прычына – вельмі сціплая колькасць аўдыторных гадзін. Другая прычына – адсутнасць групавых заняткаў. Выкладчык, безумоўна, можа і павінен узяць сабе пэўную камунікатыўную ролю, безумоўна, абмен ролямі таксама магчымы, тым не менш групавая форма мае шэраг вельмі важных пераваг (і найперш псіхалагічных), неабходных для рэалізацыі задач інтэнсіўнага метаду. Трэцяя прычына – спецыфіка мэтавай аўдыторыі. Па-першае, нашы навучэнцы – гэта, як правіла, гуманітарыі (часцей філолагі). Па-другое, у большасці выпадкаў, яны валодаюць у той ці іншай ступені рускай мовай (ці рускай і яшчэ якімі-небудзь славянскімі мовамі). Па-трэцяе, яны прыязджаюць з вельмі рознымі мэтамі. Усе гэтыя фактары (паасобку ці ў сукупнасці) патрабуюць ад выкладчыкаў выпрацоўкі розных метадычных падыходаў.

Пры індывідуальным навучанні гэтыя падыходы рэгламентуюцца найперш тымі задачамі, якія ставіць навучэнец. Калі прыярытэтнымі вызначаюцца некамунікатыўныя задачы, чалавек не ставіць сабе на мэце авалодаць практыкай маўлення (“мне трэба толькі чытаць і перакладаць”), то за аснову бярэцца тэкстуальна-перакладны метад. Як паказвае досвед, гэты традыцыйны метад найбольш аптымальны пры індывідуальным навучанні чытанню, пісьму і перакладу. Бываюць навучэнцы з вы-

Аксана Семянькевіч

ключна высокай матывацыяй і выключнымі філалагічнымі здольнасцямі, якія ставяць сабе на мэце засвоіць менавіта сістэму беларускай мовы (як правіла, для дысертацыйных даследаванняў). З такімі навучэнцамі нават у межах супастаўляльнага метаду (таго метаду, неэфектыўнасць якога ўсе мы зведалі, вывучаючы замежную мову ў школе і вну ў свой час) дасягаюцца выключна высокія вынікі, хоць роля выкладчыка, бывае, зводзіцца да ролі кансультанта. Аднак трэба падкрэсліць, што гэтыя метады можна лічыць эфектыўнымі ў такой практыцы не паводле вынікаў сфармаванасці комплексных навыкаў валодання мовай, а паводле тых задач, якія ставілі сабе навучэнцы. Калі ж на індывідуальных занятках ставіцца задача авалодання і маўленчымі навыкамі ў тым ліку, то мы працуем усё ж у рэчышчы камунікатыўна арыентаваных методык.

У працы з філолагамі ў групе на 1 курсе найбольш эфектыўнымі застаюцца камбінаваныя метады і найперш свядома практычны метад. Ён заснаваны на наступных прынцыпах: практычная накіраванасць навучання, свядомае засваенне мовы ў паслядоўнасці “ад моўных ведаў да маўленчых навыкаў”, неперaкладны шлях засваення і адсутнасць супастаўлення з роднай мовай, улік інтэрферэнцыі з роднай мовай.

Аднак у такім фармаце, як школа беларусістыкі, больш аптымальным усё ж уяўляецца камунікатыўны метад з шырокім выкарыстаннем прыёмаў інтэнсіўных методык, калі прыярытэтнай з’яўляецца практыка маўлення, а граматыцы адводзіцца службовая функцыя, і таму граматыка ўводзіцца функцыянальна. Менавіта гэты метад у найбольшай ступені здольны забяспечыць практычную накіраванасць навучання мове.

Асобна хацелася б спыніцца на праблеме працы з навучэнцамі-лінгвістамі. У фармаце групавых заняткаў у такой аўдыторыі мэтазгодным падаецца выкарыстоўваць тактыку менавіта інтэнсіўных методык. У пачатку курса выкладчык свядома прыціскае аналітычную дзейнасць навучэнцаў, забіраючы іх увагу ад граматычнай формы, тым самым арыентуючы на мэту і сэнс выказвання. Гэта неабходна, каб зняць бар’еры, якія замінаюць маўленню на чужой мове, супрацьстаяць стэрэатыпу паслоўнай пабудовы фразы, а таксама інтэрферэнцыі з роднай мовай. На першых этапах асаблівае значэнне надаецца імітаванню. Сама арганізацыя заняткаў, паступовая фіксацыя выкладчыкам увагі на самых значных для камунікацыі формах у маўленні з часам дапаможа навучэнцам зарыентавацца ў моўным матэрыяле і прааналізаваць яго. Сістэмнае абагульненне, фармуляванне правіла звычайна адтэрміноўваюцца, але гэта не значыць, што іх не можа быць. У дапамогу навучэнцам могуць уводзіцца спецыяльныя заняткі (спецыяльныя “стоп-дні”, міжцыклавыя этапы) для асэнсавання тых моўных з’яў, што ўспрымаліся інтуітыўна ў вусным цыкле, і даваліся нібы хаатычна. Дапамогуць тут табліцы, поліфункцыянальныя практыкаванні, розныя інтэрактыўныя сродкі, асаблівая роля належыць гульням. Гэты працэс упарадкавання і сістэматызацыі моўнага матэрыялу, безумоўна, даніна прынцыпу свядомага засваення мовы, аднак ён пераконвае навучэнцаў у эфектыўнасці іх дзейнасці і дзейнасці выкладчыка. Мы перакананы, што гэта проста неабходна ў працы з філолагамі. На прасунутым этапе (а для практыкі выкладання беларускай мовы веданне рускай мовы з’яўляецца дастатковым, каб працаваць паводле гэтай схемы) выкладчык мае больш магчымасцяў у выкарыстанні і апрацоўцы граматыкі, бо навучэнцы ўжо знаёмыя з граматычнай сістэмай беларускай мовы і маюць патрэбу ў актывізацыі сваіх ведаў. Таму такая тактыка асабліва эфектыўная для тых, хто шмат ведае, але дрэнна размаўляе. У гэтым выпадку навучэнцы, з аднаго боку, лёгка запаўняюць пустыя ячэйкі ў той сістэме, з якой ужо знаёмыя, а з іншага боку, самастойна адбіраюць граматычныя сродкі пры фармаванні сваіх выказванняў у адпаведнасці з сітуацыямі зносінаў, прапанаванымі выкладчыкам. Акрамя таго, яны вучацца ўжываць граматычныя формы камунікатыўна мэтазгодна.

Такім чынам, ацэньваючы практыку выкладання БМЗ у МДЛУ, мэтазгодна было б гаварыць не пра інтэнсіўнае навучанне як такое, а пра магчымае ў рэальных умовах максімальнае выкарыстанне метадаў і прыёмаў камунікатыўнага, кагнітыўнага, сацыякультурнага і сугестапедычнага падыходаў у навучанні з мэтай яго інтэнсіфікацыі. Выкарыстанне ў навучаль-

ным працэсе інтэнсіўных методык як выключна прыярытэтнага метаду стане магчымым, калі адукацыйная паслуга "Беларуская мова як замежная" будзе запатрабаваная ў такой ступені, калі яе забеспячэнне будзе вымагаць ад навучальнай установы (арганізацыі, якая прапануе адукацыйную паслугу, бо інтэнсіўныя метады найперш разлічаны на фармат менавіта курсаў) адпаведнай арганізацыі навучальнага працэсу. Мінімальнай умовай для ажыццяўлення гэтай задачы на сённяшні дзень (ва ўмовах МДЛУ), мы лічым, наяўнасць групы (мінімум 6 чалавек).

Безумоўна, для паўнавартаснай рэалізацыі адукацыйнай паслугі БМЗ у цэлым (і ў тым ліку з выкарыстаннем інтэнсіўных метадаў) перспектыўна неабходным з'яўляецца вырашэнне шэрагу задач. Гэта як задачы, звязаныя з навуковым абгрунтаваннем лінгваметадычнай мадэлі беларускамоўнай камунікатыўнай кампетэнцыі, так і задачы прыкладнога характару, сярод якіх мы вылучылі б наступныя:

- распрацаваць дзяржаўныя моўныя стандарты і на іх падставе парогавыя ўзроўні валодання беларускай мовай, якія лімітуюць сферу меркаванага выкарыстання;

- распрацаваць спосабы ацэнкі сфармаванасці маўленчых здольнасцяў і кампетэнтнасці на беларускай мове ў розных сферах камунікатыўнай дзейнасці з выкарыстаннем найноўшых тэставых тэхналогій. Апошні крок у вырашэнні гэтай задачы – стварыць Сертыфікацыйны цэнтр;

- выпрацаваць стратэгію спалучанасці канцэпцыі выкладання беларускай мовы з лінгвадыдактычнымі арыентацыямі іншых моў з улікам моўнай сітуацыі ў краіне. Спецыфікай развіцця дысцыпліны БМЗ з'яўляецца тое, што мы адпачатку можам выкарыстаць найноўшыя (самыя эфектыўныя, апрабаваныя) методыкі вывучэння замежных моў сусветнай практыкі;

- ствараць новыя вучэбна-метадычныя комплексы, арыентаваныя на сучасныя метады выкладання замежных моў;

- развіваць і ўдасканальваць навукова-метадычную базу дысцыпліны (навуковыя канферэнцыі, навуковыя тэмы ў межах асобных УВА, курсавыя, дыпломныя, магістарскія і дысертацыйныя працы);

- стварыць метадычны тэрміналагічны апарат, слоўнікі метадычнага характару;

- развіваць навукова-лінгвістычную базу дысцыпліны (адчуваецца востры недахоп слоўнікаў актуальнай лексікі, частотных слоўнікаў, слоўнікаў спалучальнасці лексічных адзінак, ідэаграфічных апісанняў лексікі і інш.; навуковыя даследаванні па лінгвістычнай кампаратывістыцы, па праблемах беларускай мовы ў функцыянальным аспекце);

- распрацоўваць комплекс дадатковых філалагічных дысцыплін (перш за ўсё літаратуразнаўчых), што забяспечваюць кагнітыўны лінгвакультуралагічны падыход да выкладання беларускай мовы;

- падрыхтоўваць педагагічныя кадры для забеспячэння рэалізацыі дысцыпліны.

Безумоўна, вырашэнне вышэйпералічаных задач вымагае часу, аднак важна вырашаць іх комплексна і паралельна. Нам бачыцца, што Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт мае значны патэнцыял для далейшага развіцця і ўдасканалення адукацыйнай паслугі выкладання беларускай мовы як замежнай.

**Літаратура**

Барысенка В.У., Васючэнка П.В., Казакевіч Т.Г., Кныш Л.С., Семянькевіч А.В., (у друку), *Беларуская мова для пачаткоўцаў*, Мінск.

Барысенка В., Кныш Л., Куліковіч У., Літвіноўская А., Рамза Т., Семянькевіч А., 2014, *Тэст па беларускай мове як замежнай. Пачатковы ўзровень. (Базавы ўзровень, Сярэдні ўзровень, Прасунуты ўзровень, Высокі ўзровень, Дасканалы ўзровень). Агульнае валоданне*, Мінск.

Павловская Н.Ю., Борисенко О.В., Васюченко П.В., Кныш Л.С., Семенькевич О.В., Чеховский Г.К., 2012, *Белорусский язык для стран СНГ: учебник*, Москва.

**Лідзія Сямешка**

Мінск

# Міжнародная летняя школа беларусістыкі: з гісторыі правядзення

**Рэзюмэ**

**Міжнародная летняя школа беларусістыкі была арганізаваная ў 1990-я гады на базе філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, але праводзілася не рэгулярна. У 2015 г. адноўленая на базе Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы і пазіцыянуецца як штогадовы адукацыйна-культурны праект, скіраваны на папулярызацыю мовы і культуры тытульнай нацыі Беларусі, набыццё і паляпшэнне беларускамоўнай камунікатыўнай і культурнай кампетэнцыі замежных навучэнцаў. Праграма ўключае інтэнсіўны практычны курс беларускай мовы, лекцыі, кансультацыі вядомых беларускіх вучоных па розных аспектах беларусістыкі, разнастайныя культурныя мерапрыемствы.**

**Abstract**

***The International Summer School of Belarusian Studies***

**The International summer school of Belarusian studies was launched in 1990s as part of the Philology Department of the Belarusian State University, but since then it hasn't been held on a regular basis. In 2015 it was revived by the Republican Institute of Higher Education and is currently regarded as an annual educational and cultural project. The school aims to popularize Belarusian language and culture, allowing foreign students to obtain and improve their Belarusian language communication skills and cultural competence.**

**The summer school curriculum includes an intense practical course of Belarusian language, lectures and consultations with famous Belarusian scientists on different aspects of Belarusian studies, and various cultural events.**

Летнія лінгвістычныя школы, што ладзяцца ў розных краінах, даўно сталіся агульнапашыранай і прызнанай формай навучання замежным мовам у непасрэдных стасунках з іх носьбітамі, удалым спалучэннем маўленчай практыкі з актыўным адпачынкам, магчымасцю пазнаёміцца з культурай, побытам народа, мова якога вывучаецца. Арганізаваць і правесці ў Беларусі летнюю беларускамоўную школу для іншаземцаў у савецкія часы не ўяўлялася магчымым, хоць за мяжой беларуская мова вывучалася і распрацоўвалася беларусазнаўчая праблематыка. Афіцыйна вывучаць яе ў краіне можна было падчас індывідуальных стажыровак на кафедрах беларускай мовы. Функцыянальна-камунікатыўныя падыходы да апісання беларускай мовы з мэтай яе выкладання іншаземцам, распрацоўка метадычных аспектаў навучання доўгі час не стаяла на парадку дня беларускай лінгвістыкі і лінгвадыдактыкі.

Навучанне беларускай мове іншаземцаў стала актуальным для Беларусі на пачатку 1990-х гадоў у сувязі з імклівымі зменамі ў палітычным, сацыякультурным жыцці, і найперш – набыццём рэспублікай дзяржаўнай незалежнасці і атрыманнем беларускай мовай статусу дзяржаўнай мовы. Сам час дыктаваў неабходнасць распрацоўкі новых адукакацыйных праектаў, скіраваных на забеспячэнне хутчэйшага ўваходжання Беларусі ў міжнародную супольнасць. Вызначальнай тэндэнцыяй стала наладжванне больш цесных партнёрскіх стасункаў з беларускай дыяспарай, замежнымі суполкамі беларускай культуры, з міжнароднымі навуковымі цэнтрамі, дзе распрацоўвалася беларусазнаўчая праблематыка, рознымі адукацыйнымі ўстановамі і вучонымі-славістамі, зацікаўленымі ў даследаванні і вывучэнні беларускай мовы, літаратуры, культуры. Ужо ў траўні 1991 г. у Мінску сабраліся на I Міжнародны кангрэс замежныя даследчыкі беларускага свету, і на ўстаноўчым сходзе была створаная Міжнародная асацыяцыя беларусістаў. Гэта натхніла на арганізацыю больш маштабных формаў навучання беларускай мове інша-

земцаў. Стала рэальнай ідэя міжнародных летніх курсаў беларускай мовы.

Вось што ўзгадвае пра тое, як "выспельвалася" і рэалізавалася задума летніх курсаў беларускай мовы, адзін з арганізатараў і першы дырэктар Міжнароднай школы беларускай мовы, літаратуры і культуры, дацэнт, пісьменнік Уладзімір А. Навумовіч. Ён узначаліў створаную ў гэты час у Беларускім дзяржаўным універсітэце кафедру беларускай мовы і літаратуры для прыродазнаўчых факультэтаў, задачай якой было навучанне роднай мове будучых фізікаў і радыёфізікаў, матэматыкаў і хімікаў, юрыстаў і географаў, гісторыкаў, дзе выкладанне адразу ж было падзелена на дзве "плыні" – беларускамоўную і рускамоўную. Кафедра была ўкамплектаваная маладымі амбітнымі спецыялістамі, здольнымі рэалізаваць новыя праекты.

З чаго пачыналі? Вучоныя з БДУ і Акадэміі навук "заселі" за "манускрыпты", навуковыя артыкулы ўсіх часоў і народаў, і "адшукалі" навукоўцаў, якія хоць калі і хоць што, хоць кольвечы і хоць як прыгадвалі пра Беларусь і беларусаў. Так, напрыклад, Ф. Скарыну – беларускага першадрукара называў у сваіх навуковых артыкулах Рунасака Курода з Асакі. "Паляцелі" лісты-запрашэнні ва ўсе канцы свету:

*Дарагія незнаёмыя сябры! Калегі! Аматары беларускай славеснасці!*

*Сёння ў свеце ўсё шырэй чутно пра Беларусь! Што гэта за край? Дзе знаходзіцца? Як можна трапіць у гэтыя малавядомыя пакуль для многіх, але чароўныя мясціны?*

*Беларусь размешчаная амаль у цэнтры Еўропы. Знаходзіцца гэты край паміж Расіяй і Польшчай, Літвой, Латвіяй і Украінай. Насельніцтва складае звыш 10 мільёнаў, у сталіцы Мінску жыве больш за 1,5 млн. чалавек.*

*Землі старадаўняй Беларусі – адна з калысак усходняга славянства. Тут жылі калісьці старажытныя плямёны дрыгавічоў, радзімічаў, палачан, крывічоў, на землях якіх пачыналіся воды Волгі і Нёмана, Днепра і Дзвіны, па якіх ішло рассяленне ўсходніх славян, адкуль яны разыходзіліся ў розныя бакі.*

Такімі словамі пачынаўся рэкламны буклет пра адкрыццё Міжнароднай школы беларускай мовы, літаратуры і культуры ў ліпені 1991 года ў Мінску ў Беларусі, што ўсё яшчэ знаходзілася "на сямі вятрах", "на раздарожжы" пасля распаду "савецкай імперыі".

Каб станавілася ясней, пра якую частку свету ідзе гаворка, удакладнялася: Летапісец пісаў: "[…] а Словънъ (маюць княжанне) сваё Новгородъ, а другое на Полотъ, иже Полочане, от них же Кривичи иже съдят на верхъ Волги, а на верх Двины и на верх Днъпра…", "также Северъ отъ нихъ…". На гэтых землях праходзіў шлях "з вараг у грэкі". Беларусь – адна з прарадзімаў мовы ўсходніх славян. А далей ішлі ветлівыя і настойлівыя запрашэнні: *Калі Вы хочаце адкрыць гэты новы для сябе край, даведацца пра яго мінулае і сучаснае, – прыязджайце ў Беларусь!*

"Было вырашана, – успамінае У. Навумовіч, – наладзіць навучанне ў Міжнароднай школе ў два тэрміны. Першы набор: 3-29 ліпеня 1991 г.; другі: 1-25 жніўня 1991 г. Першымі слухачамі школы беларускай мовы сталі вучоныя-славісты прафесар Герман Бідэр з універсітэта горада Зальцбург, Моніка Банькоўскі-Цуліг з бібліятэкі горада Цюрыха (Швейцарыя), Рунасака Курода, кіраўнік русістаў з тэхнічнага ўніверсітэта ў Японіі (дарэчы, жонка Ру, як звала яго маці, у тыя ж дні паехала на моўны семінар у Прагу), прафесар Мары Роз са Швейцарыі, Ян Жучка, сын беларусаў-эмігрантаў з Германіі, Паола Гальвані, магістрант і супрацоўнік часопіса "Паэзія" з Мілана, Італія. Апантаны "кнігачэй" Паоло Гальвані ведаў пяць замежных моў (нямецкую, французскую, англійскую, кітайскую, родную – італьянскую) і прыехаў вывучаць яшчэ і беларускую. Курт Вулхайзер, прафесар універсітэта са штата Індыяна ў ЗША, вярнуўшыся з курсаў у Мінску, быў настолькі падрыхтаваны, што мог прымаць па тэлефоне тэставы экзамен на веданне беларускай мовы у прэтэндэнтаў, якія падавалі заяўкі на працу ў тэхнічны апарат перакладчыкаў ААН у Нью-Ёрку. Вывучэнне беларускай мовы на летніх курсах вялося без мовы-пасрэдніка, наўпрост. Калі па дарозе ў Мір і Нясвіж ў аўтобусе два прафесары – англамоўны Курт Вулхайзер і нямецкамоўны Герман Бідэр загаварылі паміж сабой на беларускай мове, сваю задачу арганізатары МШБ маглі лічыць выкананай".

Міжнародная школа беларускай мовы,

літаратуры і культуры – цалкам самастойнае культурна-асветніцкае прадпрыемства, што распачынала і вяло на працягу некалькіх гадоў сваю працу на ўмовах самафінансавання і самаакупнасці. Аднак з прычыны неспрыяльнай фінансава-эканамічнай сітуацыі МШБ без дзяржаўнай падтрымкі не змагла пашырыць сваю дзейнасць.

Тым не менш колькасць іншаземцаў, якія мелі намер авалодаць беларускай мовай, павялічвалася. Рэгулярна на кафедру сучаснай беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта прыязджалі замежныя студэнты, аспіранты, якія выбіралі аб'ектам будучай прафесіі беларускую мову ў яе тэарэтычных і практычных аспектах. Па ініцыятыве гэтай кафедры ў 1999 г. удалося аднавіць праект *Міжнародная школа беларусістыкі*. Дырэкцыяй Школы (дырэктар – загадчык кафедры дацэнт Лідзія Сямешка, намеснік – дацэнт Вікторыя Ляшук) была распрацаваная Праграма IV Летняй школы-семінара беларускай мовы, літаратуры і культуры (5-19 ліпеня 1999 года), якая сталася рэалізаванай дзякуючы фундатарскай падтрымцы аматараў роднай мовы. Спецыяльна для ўдзельнікаў летняга семінара аўтарскім калектывам кафедры быў падрыхтаваны вучэбны дапаможнік *Гаворым па-беларуску* (Л.І. Сямешка, З.І. Бадзевіч, Ж.А. Белакурская і інш., *Гаворым па-беларуску. Вучэбны дапаможнік па беларускай мове для замежных навучэнцаў*, пад рэд. Л. Сямешкі, Мінск 1999), што ўяўляў сабою інтэграваны лексіка-граматычны курс з вучэбнымі тэкстамі этнакультурнага, краіназнаўчага характару і сістэмай заданняў, скіраваных на фармаванне камунікатыўных навыкаў у сітуацыйна абумоўленым кантэксце.

Летні семінар аб'яднаў больш за 60 навукоўцаў, выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, аспірантаў, студэнтаў з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Расіі, Аўстрыі, Германіі, Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, ЗША, Фінляндыі, Ізраіля. Сярод іх былі як маладыя даследчыкі-славісты, у сферу інтарэсаў якіх уваходзіла беларусазнаўчая праблематыка (Бэрман Мэцью (Эстонія) – пытанні акцэнтуацыі ў беларускіх дыялектах; Шродэр Брыта Лізелотэ (Германія) – сацыялінгвістычныя аспекты функцыявання беларускай мовы; Марыёла Якубовіч (Польшча) – лексіка-этымалагічныя даследаванні беларускай мовы і інш.), так і такія вядомыя вучоныя, як сацыёлаг з Польшчы прафесар Рышард Радзік (удзельнічаў разам з жонкай спадарыняй Ядвігай Зофіяй Радзік), адзін з напрамкаў яго даследаванняў – беларуская народная свядомасць XIX-XX стст., прафесар лінгвістыкі Поль Вэкслер (Ізраіль) – спецыяліст па славянскіх мовах, і найперш беларускай, аўтар многіх манаграфій артыкулаў, у тым ліку па гістарычнай фанетыцы беларускай мовы. Яшчэ ў пачатку 1990-х гадоў на аснове аналізу лінгвістычных, гістарычных, этнаграфічных крыніц прафесар Вэкслер прапанаваў тэорыю славянскага (а не германскага) паходжання ідыш, сцвярджаючы, што ашкеназы не выхадцы з Бліжняга Усходу, а карэнны еўрапейскі народ, які паходзіць ад заходніх славян (лужычан (сорбаў), палабаў) і, верагодна, блізкі да продкаў беларусаў-палешукоў. Падчас семінара вучонага цікавілі пытанні гістрычнай граматыкі беларускай мовы – парны лік назоўнікаў і рэшткі яго ў сучасных беларускіх дыялектах, будова сказа ў гістарычным аспекце і інш. Узгадваецца яго перакананасць у тым, што іўрыт – гэта рэлексіфікаваны ідыш славянскага паходжання, які мае агульныя рысы з беларускімі гаворкамі.

Праграма Летняй школы ўключала двухтыднёвы інтэнсіўны практыкум беларускай мовы, разлічаны на пачатковы, базавы і сярэдні ўзроўні (па 4 гадзіны штодзённа). У шасці групах з 8-10 чалавек заняткі вялі маладыя выкладчыкі беларускай мовы, сёння ўжо вядомыя вучоныя – Таццяна Рамза, Вікторыя Ляшук, Сяргей Запрудскі, Георгій Чахоўскі, светлай памяці Юрась Бушлякоў і інш. Лекцыйная частка ажыццяўлялася аўтарытэтнымі беларускімі навукоўцамі. Дзеля больш прадуктыўнага ўспрыняцця зместу тэксты лекцый былі выдадзеныя ў спецыяльным зборніку. Надзвычай цікавымі, паводле пазнейшых водгукаў навучэнцаў, падаліся ім лекцыі прафесара Вячаслава П. Рагойшы *Беларуская літаратура ў славянскай міжлітаратурнай супольнасці*, праф. Генадзя П. Цыхуна *Арэальныя даследаванні беларускай мовы*, а таксама лекцыі вучоных, якіх ужо сёння няма з намі, – праф. Анатоля П. Грыцкевіча *Беларуская дзяржаўнасць у XIII-XVIII стст.*, *Беларуская дзяржаўнасць у пачатку XX ст.*, праф. Адама Я. Супруна *Беларуская мова сярод іншых славянскіх моў*, праф. Алега А. Лойкі *Сімволіка раслiннага свету ў беларускай літаратуры*.

Культурная праграма для ўдзельнікаў семінара была скіраваная на тое, каб даць уяўленне пра Беларусь, яе духоўную і матэрыяльную спадчыну. Гэтаму былі падпарадкаваныя экскурсіі па горадзе Мінску, знаёмства са старажытным цэнтрам, ніжнім і верхнім горадам, яго былымі прадмесцямі, дынамікай забудовы ў XIX ст., манументальнымі помнікамі і скульптурнымі кампазіцыямі, наведванне музеяў, гістарычных мясцін, звязаных з дзеячамі навукі і культуры Беларусі, знаёмства з Нацыянальнай бібліятэкай, яе фондамі, аддзелам рэдкай кнігі, сустрэчы з фальклорнымі калектывамі, пісьменнікамі, мастакамі, наведванне майстэрні вядомага беларускага жывапісца Віктара Альшэўскага і многае іншае. Выязныя экскурсіі ўключалі знаёмства з Мірскім замкам, пабудаваным у XVI ст. магнацкім родам Ільінічаў у стылі позняй готыкі, паездкі на радзіму класікаў беларускай літаратуры Я. Купалы, Я. Коласа, а таксама на радзіму Адама Міцкевіча – горад Навагрудак, заснаваны ў канцы X ст., багаты на помнікі старажытнасці. Яскравыя ўражанні засталіся ў навучэнцаў ад дома-музея Адама Міцкевіча і прыроднага помніка – возера Свіцязь, якое было і ёсць крыніцай натхнення многіх беларускіх пісьменнікаў.

У запоўненых напрыканцы анкетах слухачы адзначалі высокі вучэбна-пазнавальны ўзровень заняткаў, пісалі пра дасканаласць і прыгажосць беларускай мовы. На развітальнай вечарыне прысутныя госці былі прыемна ўражаныя ўзроўнем набытых уменняў і навыкаў, мастацкай творчасцю ўдзельнікаў на беларускай мове. Многія з іх выказвалі намер далей вывучаць беларускую мову і жаданне прыехаць у Мінск на наступныя сезоны. Аднак зрабіць Міжнародны летнік беларускай мовы штогадовым, як планавалася, вылучыўшы ў самастойную адукацыйную структуру на філалагічным факультэце, па тым часе не атрымалася.

Пазалетась гэты праект быў адноўлены Рэспубліканскім інстытутам вышэйшай школы, на базе якога з 24 жніўня па 8 верасня 2015 года праведзеная Міжнародная летняя школа беларусістыкі. Гэтая адукацыйная ўстанова стала базай Летняй школы не выпадкова. Яна выступае адным з вядучых у рэспубліцы навукова-метадычных і інфармацыйна-аналітычных цэнтраў, дзе ствараюцца найноўшыя адукацыйныя тэхналогіі і сучасныя методыкі навучання ў сістэме вышэйшай школы. Тут павышаюць кваліфікацыю і праходзяць перападрыхтоўку спецыялісты ў розных кірунках дзейнасці вышэйшай школы, у тым ліку распрацоўваецца праграма павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў беларускай мовы як замежнай. Адным з навукова-даследчых напрамкаў інстытута на 2016-2020 гг. з'яўляецца стварэнне Дзяржаўнага адукацыйнага стандарта і сістэмы сертыфікацыйнага тэставання па беларускай мове як замежнай.

Міжнародная летняя школа беларусістыкі 2015, як і мінулыя семінары, мела на мэце павысіць цікавасць замежных навучэнцаў да мовы і культуры тытульнай нацыі Беларусі, дапамагчы ім хутка і эфектыўна авалодаць навыкамі беларускага маўлення (ці ўдасканаліць іх), паглыбіць веды пра беларускую рэчаіснасць, культуру, гісторыю і літаратуру. Сярод навучэнцаў Школы пераважалі студэнты, аспіранты з Польшчы, Расіі, Германіі, Славакіі, Чэхіі, Венгрыі, Японіі (у адрозненне ад папярэдніх семінараў, дзе значную колькасць складалі навукоўцы, выкладчыкі ўніверсітэтаў). З розных прычын склад удзельнікаў давялося абмежаваць трыма групамі (па 10 чалавек у кожнай), практычныя заняткі ў якіх вялі кваліфікаваныя выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (дац. Таццяна Рамза, ст. выкл. Святлана Балотнікава) і Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта (дац. Вольга Барысенка, дац. Ларыса Кныш, выкл. Аксана Семянькевіч). Тэматыка лекцыйнай часткі датычылася пераважна лінгвістычнай праблематыкі. Так, гістарычныя аспекты беларускай мовы асвятляліся ў лекцыях дац. Ганны І. Кулеш *Канцэпцыі паходжання і этапы развіцця беларускай мовы*, актуальныя пытанні сучаснага стану мовы – у лекцыях *Актыўныя тэндэнцыі развіцця беларускай мовы на сучасным этапе* (праф. Аляксандр А. Лукашанец), *Праблемы нормы і варыянтнасці ў беларускай літаратурнай мове* (дац. Сяргей М. Запрудскі), *Беларуская мова ў сучаснай інтэрнэт-камунікацыі* (дац. Сяргей А. Важнік). З зацікаўленасцю ўспрынялі навучэнцы лекцыі праф. Людмілы Сіньковай *Пісьменніцкія пакаленні ў сучаснай беларускай літаратуры*, доктара мастацтвазнаўства Вольгі А. Лабачэўскай *Беларускае народнае мастацтва: традыцыі і сучаснасць*, дац. Анжалікі Л. Садоўскай *Беларуская народная*

*песня: этналінгвістычная рэканструкцыя, Беларуская этнафразеалогія.*

Стварэнню атмасферы ўсебаковай міжкультурнай камунікацыі дапамагла шырокая і разнастайная культурная праграма. Яна ўключала адукацыйныя экскурсіі па Мінску, наведванне культурных цэнтраў і ўстаноў, музеяў, бібліятэк, музычнага фэсту, майстэрні маладой, але вядомай мастачкі Кацярыны Сумаравай і шмат што іншае. Экскурсійная праграма за межамі сталіцы складалася з некалькіх тэматычных блокаў. Наблізіцца да разумення сутнасці творчасці беларускіх класікаў Я. Купалы і Я. Коласа дазвалялі літаратурна-пазнавальныя экскурсіі на іх радзіму – Вязынку і Мікалаеўшчыну, у дзейныя дамы-музеі. Гістарычна-культурны аспект стаў найважнейшым пры наведванні старажытнага горада Заслаўя, а таксама Нясвіжскага замка, пабудаванага ў XVI ст. як рэзідэнцыі князёў Радзівілаў, дзе захаваўся старажытны парк, палацава-паркавы комплекс.

Апрабаваць і замацаваць набытыя маўленчыя навыкі дапамагалі замежным навучэнцам беларускія студэнты-філолагі, якія бавілі з імі вольны час, ладзілі гасцёўні, вячоркі (з дранікамі, беларускімі гульнямі, песнямі). Таму нягледзячы на тое, што гарадская побытавая камунікацыя ў Мінску пакуль у пераважнай ступені рускамоўная, удзельнікі Летняй школы знаходзіліся ў беларускамоўным асяроддзі і, верагодна, змаглі пераструктураваць асобныя фрагменты ўласнай карціны свету, уключыўшы ў яе беларускі фрагмент – у непадобнасці (ці падобнасці) яго культурна-моўных рэалій і каштоўнасных прыярытэтаў з іх роднымі мовамі і культурамі.

Праца Школы выклікала цікавасць у беларускіх СМІ. Здаецца, шмат для каго з беларускіх рускамоўных гледачоў, у пэўным сэнсе, стала адкрыццём тое, што ў замежных універсітэтах вывучаецца беларуская мова, што іншаземцы бездакорна валодаюць ёю, як гэта прадэманстраваў прынамсі ў тэлеінтэрв'ю доктар Радаслаў Калета – ад'юнкт, намеснік кіраўніка кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта, распавядаючы пра навучанне беларускай мове польскіх студэнтаў. "Зоркамі" тэлеэкрана на працягу двух тыдняў былі аспірантка Сіёры Кіёсава (універсітэт Цукуба, Японія), студэнты Адам Фалбр (Карлаў універсітэт, Чэхія), Рубэн Більвард (Тэхнічны ўніверсітэт г. Дрэздэна, Германія), якіх паспелі праінтэрв'юаваць розныя тэлеканалы.

У 2016 г. Летняя школа беларусістыкі доўжылася з 30 чэрвеня па 15 ліпеня. Праграма была разлічаная як на слухачоў, якія раней не сутыкаліся з беларускай мовай, так і тых, хто ўжо вывучаў яе ў школе, універсітэце ці ў непасрэдных стасунках з носьбітамі беларускай мовы. Для навучэнцаў, якія хацелі паглыбіцца ў атмасферу беларускамоўнай камунікацыі, былі распрацаваныя аўтарскія праграмы, скіраваныя на вырашэнне высокапрадуктыўных камунікатыўных задач, фармаванне гатоўнасці інтэрпрэтаваць інфармацыю, даваць ёй крытычную ацэнку, рабіць абагульненні і высновы, вар'іраваць моўныя і маўленчыя сродкі.

Аб'ём прадуктыўнага і рэцэптыўнага матэрыялу на практычных занятках, колькасць граматычных канструкцый, ступень складанасці камунікатыўных задач істотна адрозніваюцца ў розных групах, але адбор і арганізацыя вучэбнага матэрыялу на ўсіх узроўнях ажыццяўляецца на аснове інтэграцыі моўнага, сацыякультурнага і аксіялагічнага кампанентаў яго зместу.

Тэарэтычныя звесткі лінгвістычнага, літаратуразнаўчага, культуразнаўчага характару плануецца ў будучыні выкладаць у форме сінтэзаваных лекцыйных цыклаў, якія будуць чытацца на двух патоках (на выбар) штодзённа. Па магчымасці, будуць улічаныя індывідуальныя пажаданні ўдзельнікаў адносна тэматычнай скіраванасці лекцый, якія яны могуць загадзя выказаць у сваіх заяўках. Вучоба будзе сумяшчацца з разнастайнымі культурна-пазнавальнымі мерапрыемствамі, сярод якіх пешыя і выязныя экскурсіі, наведванне мастацкіх галерэй, бібліятэк, сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, навукоўцамі. Пасля паспяховага завяршэння курса ўдзельнікі атрымаюць адпаведны сертыфікат.

Удзел у Летняй праграме Міжнароднай школы беларусістыкі – гэта ўнікальная магчымасць за кароткі час навучыцца гаварыць па-беларуску, глыбей успрыняць беларускі свет з яго моўнай і сацыякультурнай адметнасцю, узбагаціцца цікавымі ведамі і новым эмацыйным вопытам.

**Надзея Старавойтава**

Мінск

# Арганізацыя курсаў беларускай мовы як замежнай у Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце

**Рэзюмэ**

**У артыкуле гаворыцца пра актуальнасць узнікнення разнастайных моўных курсаў у сучасным свеце, што аналізуюцца паводле тыпаў і формаў. Асноўны акцэнт робіцца на практыцы стварэння курсаў беларускай мовы як замежнай у Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце, выкладаецца аўтарскі погляд на функцыянаванне такіх курсаў.**

**Abstract**

***Organizing Belarusian as a foreign language courses at Belarus State Economic University***

**The article deals with the importance of the emergence of a variety of language courses in today's world that are analyzed according to their types and forms. The main focus is on the practice of creation of Belarusian as a foreign language courses at Belarus State Economic University. The article sets out the author's view of the functioning of such courses.**

Веданне замежных моваў у сучасным свеце ўжо даўно з'яўляецца неабходнасцю – так мы атрымліваем значную колькасць інфармацыі. Гэта дае нам мажлівасць лучнасці, не абмежаванае моўнымі бар'ерамі. Вывучаючы мовы, мы робім унёсак у сваю будучыню, пагатоў, калі гаворка не толькі пра аматарскую, а найперш пра адмысловую зацікаўленасць. Так ёсць і з беларускай мовай, найперш для замежнікаў-славістаў.

На жаль, з сярэдзіны 1990-х гадоў з вядомых палітычных прычын лёс беларусістыкі і ў Беларусі, і па-за яе межамі склаўся не самым спрыяльным чынам. Нігілістычная моўная палітыка прывяла да згортвання нацыянальнай культурнай праграмы бадай на два дзесяцігоддзі. У заходніх універсітэтах на фоне адкрыцця новых цэнтраў украіністыкі і русістыкі амаль зніклі апошнія беларускія пляцоўкі. З добрай сотні заходніх беларусістаў, якія бралі ўдзел у Міжнародным кангрэсе МАБ у 1995 годзе, засталіся адзінкі. Большасць пераключылася на ўкраіністыку ці русістыку. Адваротныя працэсы беларусізацыі пачалі адчувацца ў грамадстве ў апошнія два гады ў сувязі з падзеямі ва Украіне, калі зноў загаварылі пра культурную адметнасць беларусаў, першым паказчыкам чаго заўжды была нацыянальная мова і стан яе развіцця. Імкліва ўзрасла колькасць разнастайных курсаў беларускай мовы (іншыя паказчыкі, як, прыкладам, рэклама ці білборды тут не аналізуем): "Мова Нанова", "МоваВеда", "Мова ці Кава", "Мова.tut", "Моўныя сустрэчы", "Мова з Імбрыкам" і іншыя. Гэтыя папулярныя курсы спрыяюць таму, каб шараговы беларус пачаў больш размаўляць на роднай мове.

У акадэмічных колах распачалася сур'ёзная праца над распрацоўкай і сертыфікацыяй цалкам новага для Беларусі напрамку – Беларуская мова як замежная (БМЗ) – для замежных грамадзян. Адпаведныя курсы беларускай мовы для замежнікаў ужо здаўна чыталіся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце (БДУ) і Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце (МДЛУ). У 2015 г. адмысловыя курсы беларускай мовы як замежнай былі распрацаваныя ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце (БДЭУ) на факультэце міжнародных бізнес-камунікацый дацэнтам Надзеяй Старавойтавай. Перш як даць ім характарыстыку, акрэслім, што ўяўляе з сябе панятак "моўныя курсы".

Існуе шмат рэкамендацый да вывучэння замежных моваў. Аднак найбольш дзейсным метадам з'яўляецца занурэнне ў моўнае асяроддзе, то бок вывучэнне замежнай мовы ў той краіне, дзе яна з'яўляецца афіцыйнай і пашырана выкарыстоўваецца. Зразумела, што да вывучэння

Надзея Старавойтава

беларускай мовы замежнікамі, дык яны пакуль пазбаўленыя паўнавартаснага занурэння ў беларускамоўнае асяроддзе – у Беларусі яно лакальнае і пакуль яго трэба вышукваць адмысловымі шляхамі. Нягледзячы на тое, прыклады замежнікаў, якія вывучалі беларускую мову ў БДУ і МДЛУ, сведчаць, што і лакальнае занурэнне можа прыносіць свае поспехі.

Паводле тыпаў курсы замежных моваў могуць быць рознай інтэнсіўнасці, працягласці і скіраванасці. Існуюць таксама праграмы навучання мове для дарослых і дзяцей. Пры арганізацыі нашых курсаў у БДЭУ, відавочна, нас найперш цікавілі курсы для дарослых. Паводле формы арганізацыі школы (курсы) могуць быць сеткавыя (з цэнтрамі ў некалькіх гарадах) і сямейныя (калі школа арганізуецца і кіруецца адной сям'ёй). У нашым выпадку – гэта пакуль курсы ў межах аднаго ўніверсітэта (БДЭУ). Акрамя таго, на час летніх вакацыяў шмат якія курсы прапануюць летнія школы, што ёсць і ў нашых планах.

У залежнасці ад інтэнсіўнасці моўныя курсы можна класіфікаваць наступным чынам:

**1) Стандартны курс**. Стандартны моўны курс прадугледжвае 15 – 20 заняткаў на тыдзень па 3 – 4 акадэмічныя гадзіны на дзень, заняткі праводзяцца зранку ці па абедзе (звычайна, заняткі ў другой палове дня каштуюць танней). Урокі ўключаюць граматыку, чытанне, пісьмо, лексіку, аўдыяванне, развіццё вуснага маўлення. Студэнтаў забяспечваюць дыдактычнымі матэрыяламі. Заняткі адбываюцца ў стандартнай навучальнай групе ў 10 – 12 чалавек. У першы дзень заняткаў студэнт праходзіць моўны тэст, па выніках якога яго размяркоўваюць у адпаведную групу. Рэгулярныя тэсты фіксуюць поспехі студэнта. Рэкамендаваная мінімальная працягласць курса – 4 тыдні.

**2) Інтэнсіўны курс**. Паводле структуры гэты курс падобны да стандартнага, але прадугледжвае большую нагрузку – ад 25 да 32 заняткаў на тыдзень (ад 5 да 6,5 акадэмічных гадзін на дзень). Заняткі адбываюцца зранку і, як правіла, па абедзе. Гэты курс ідэальна пасуе высокаматываваным студэнтам, якія прагнуць дасягнуць максімальных вынікаў за кароткі тэрмін.

**3) Індывідуальнае навучанне**. Шмат якія школы ў дадатак да стандартнага ці інтэнсіўнага курса ў групах прапануюць індывідуальныя заняткі з выкладчыкам дзеля падвышэння эфектыўнасці. У дадзеным выпадку заняткі ўкладаюцца з улікам пажаданняў і патрэбаў студэнта. Калі ёсць абмежаванні ў часе на вывучэнне мовы, можна дадаць 5 – 10 індывідуальных заняткаў на тыдзень да найхутчэйшага дасягнення вынікаў. Навучальная нагрузка ад 10 да 40 акадэмічных гадзін на тыдзень. Гэты курс эфектыўны, але досыць дарагі.

**4) Бізнес курс**. У гэтым курсе вывучаюць прынцыпы бізнес-карэспандэнцыі, камунікацыі, навучаюцца праводзіць прэзентацыі, працаваць з інфармацыйнымі матэрыяламі, весці перамовы, арганізоўваць свой працоўны дзень, а таксама шмат увагі надаецца пісьмовай мове і граматыцы. Звычайная працягласць такога курса – 2 тыдні, курс можа быць рознай інтэнсіўнасці, як правіла, ад 28 заняткаў на тыдзень. Рэкамендаваны людзям з добрым базавым узроўнем мовы.

**5) Акадэмічны год**. Гэта адмысловы доўгі моўны курс, разлічаны на тэрмін ад 6 да 9 месяцаў (цэлы навучальны год). Звычайна першая палова такога курса складаецца з агульных заняткаў (4 – 5 гадзін на дзень). Гэты курс дазваляе дасканала вывучыць мову, а таксама пазнаёміцца з культурай краіны. Навучальная праграма спалучае пісьмовыя практыкаванні, ролевыя гульні, лучнасць і шмат іншых цікавых інтэрактыўных практык. Гэта дазваляе хутка павялічыць вакабуляр (слоўнікавы запас), палепшыць веданне граматыкі, вымаўленне і інтанацыю. Паводле ўдасканалення моўных навыкаў частка моўных заняткаў замяняецца спадарожнымі дысцыплінамі: гісторыяй, геаграфіяй, культурай, літаратурай, мастацтвам, што выкладаюцца на мове навучання. Шмат якія школы прапануюць адмысловыя зніжкі да навучання такіх студэнтаў, якія замаўляюць падобныя даўгія курсы.

Курсы беларускай мовы як замежнай, што прапануе БДЭУ у асноўным адпавядаюць пералічаным еўрапейскім стандартам. Мы прапануем індывідуальнае і групавое навучанне ў такіх адмысловых дысцыплінах: уводна-фанетычны курс (арфаэпія, размоўная практы-

ка, караоке па-беларуску), маўленчы этыкет, практычная граматыка, гісторыя беларускай мовы, лінгвакраіназнаўства Беларусі (гісторыя, культура (мастацтва), міфалогія, фальклор, этнаграфія, літаратура), беларуская мова для бізнес-камунікацыі. Навучанне ажыццяўляецца паводле адзіных стандартаў агульнаеўрапейскай сістэмы CEFR. У моўных напрамках арганізуюцца групы адпаведных узроўняў: пачатковы (A1), базавы (A2), сярэдні (B1), высокі (B2), дасканалы (C1). Акрамя таго, мажлівая распрацоўка індывідуальнай праграмы з улікам адмысловых задач канкрэтнага слухача.

Заняткі праводзяць высокакваліфікаваныя спецыялісты, якія актыўна практыкуюць найноўшыя метады і сродкі навучання: *MOOC*, *Knewton*, *BYOD*, *Quora*, *Hour of Code*, *Human Library Event*, *Threshold knowledge*, *брыкалаж*, *методыка здзіўлення* (знаёмства з нацыянальнай беларускай кухняй, "тэатр у фатэлі", гістарычны квэст у замку). Інтэрактыўныя падыходы да выкладання мовы дазволілі пазіцыянаваць курсы БДЭУ як курсы новага пакалення, у якім няма месца старой кансерватыўнай школе.

Што да працягласці і інтэнсіўнасці курсаў, дык мы прапануем нашым слухачам наступныя варыянты: 2 тыдні – 50 г., 1 месяц – 100 г., 3 месяцы – 300 г., 6 месяцаў – 600 г., 9 месяцаў – 900 г. У нас прадугледжаны тып індывідуальнага навучання, дзе колькасць гадзін можа быць скарэгаваная. Заняткі на нашых курсах платныя. Кошт для кожнага слухача залежыць ад колькасці чалавек у групе (ад 1 да 8). І гэтая прапанова вельмі сімпатычная: група ў 8 чалавек можа вывучаць беларускую мову ў Беларусі 9 месяцаў усяго за 780 даляраў за навучальны год (адзін чалавек мае заплаціць 5600 даляраў). Заняткі пачынаюцца паводле камплектацыі груп. Падчас навучання прадугледжаная шырокая культурная праграма ў Беларусі (за асобны кошт).

Незалежна ад абранага тыпу курсаў, працягласці і інтэнсіўнасці, пры паспяховым заканчэнні праграмы кожная моўная школа абавязкова выдае сертыфікат, што пацвярджае праходжанне адпаведнага курса. У БДЭУ таксама распрацаваны свой узор сертыфіката.

Таксама мы запрашаем да супрацоўніцтва цэнтры беларусістыкі (славістыкі) у замежжы. У перспектыве мы плануем арганізоўваць навуковыя канферэнцыі і летнюю школу беларусістыкі, а таксама наладзіць выкладанне беларускай мовы праз Скайп.

Рэкламны праспект курсаў на беларускай[1], расейскай[2] і англійскай[3] мовах распрацоўваўся з дапамогай адмыслоўцаў у адпаведных мовах, а візуальны выгляд – з дапамогай дызайнера. Электронны варыянт нашага праспекта размешчаны на афіцыйным сайце БДЭУ ў частцы "Курсы/Услуги" і "Courses" адпаведна, а таксама надрукаваны ў выглядзе буклета на англійскай мове. Рэпосты старонак пра курсы рабілі "Цэнтр беларусістыкі" ў Канзасе ("Center for Belarusian Studies"), кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта, адукацыйны сайт *nastaunik.info* ды іншыя медыярэсурсы. Навіны пра курсы БДЭУ і вывучэнне беларускай мовы замежнікамі ўвогуле адлюстроўвае нашая суполка на Фэйсбуку "Моваведа ў замежжы"[4].

Куратарам курсаў з'яўляецца дацэнт кафедры беларускай і рускай моў БДЭУ Надзея Старавойтава, чые каардынаты адлюстраваныя ў рэкламным праспекце на сайце і ў буклеце (з пазначэннем мажлівасці звароту праз Вайбер, што ёсць сучаснай і найбольш аператыўнай формай камунікацыі, а таксама і навучання).

Акрамя таго, у рэкламе нашых курсаў выкарыстоўваюцца псіхалінгвістычныя прыёмы матывацыі слухачоў як мовазнаўчага, так і агульнаадукацыйнага характару, кшталту: "табе цікавая мова, у якой існуе аж СЕМ дэталізаваных сінонімаў да азначэння панятку "любоў" *(любоў, каханне, любасць, міласць, мілосць, мілата, любошчы)?*", "хочаш даведацца пра ўнікальныя гукі – санорны [**ў**], літарнаму абазначэнню якога ў Беларусі ўзведзены помнік, і падоўжаны [**ж:**], а таксама пра зацвярдзелы [**дж**], што лучыць беларусаў з сербамі і англічанамі *(любо**ў**, узбярэ**жж**а, адра**дж**энне)?*", "жадаеш пазнаёміцца з мовай, для запісу якой існавала аж тры графічныя сістэмы (кірыліца, лацінка і

[1] http://www.bseu.by/russian/courses/belarusianAsForeignBy.htm

[2] http://www.bseu.by/russian/courses/belarusianAsForeignRu.htm

[3] http://www.bseu.by/english/courses/belarusianAsForeignEn.htm

[4] https://www.facebook.com/groups/576242919184303/

арабская вязь), дзве з якіх захаваліся да сёння *(станцыя метро "Плошча Якуба Коласа" – stancyja mietro "Plošča Jakuba Kolasa")?*" ці "хочаш адчуць мову краіны, праграмісты якой прыдумалі самы папулярны мабільны дадатак у свеце – Viber, а пісьменніца атрымала Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры?", "жадаеш апынуцца ў Белавежскай пушчы і ўвачавідкі пабачыць велічны сімвал Беларусі – зубра, а таксама выправіцца ў край Блакітных азёр, дзе пачуеш пра беларускую Нэссі і адкуль паходзіць Жак Іў Кусто?". Заахвочваючы на нашыя курсы мы падкрэсліваем, што Беларуская мова – адна з найдаўнейшых афіцыйных моваў Еўропы (Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 года), цяпер – нацыянальная і дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь; Беларуская мова захавала ў сабе шмат аўтэнтычных славянскіх элементаў і таму справядліва лічыцца ключом да разумення іншых славянскіх моваў; Беларуская мова знаходзіцца ў Чырвонай кнізе моваў ЮНЭСКА, а таму яе вывучэнне будзе цікавым як замежным даследчыкам-славістам, так і больш шырокаму колу ахвотных.

Такім чынам, мы запрашаем замежных грамадзян на курсы беларускай мовы ад пачатковага да прасунутага ўзроўняў. Моўныя курсы за мяжой дазваляюць не толькі ўдасканаліць замежную мову, але і занурыцца ў культуру і побыт народа, зразумець іх традыцыі і нацыянальныя асаблівасці. А гэта заўжды цікавей і глыбей, чымся проста паехаць у турыстычную вандроўку і наведаць мясцовыя помнікі культуры. Спадзяемся, што гэты напрамак будзе развівацца ў нашай краіне і зробіцца папулярнай формай камунікацыі паміж беларусамі ды беларусістамі Беларусі і замежжа, што будзе спрыяць пашырэнню сфераў уплыву беларускай мовы і ў метраполіі.

**Кацярына Канчэўская**

Гародня

# Горадзень, Gardinas, Гародня, Grodno, Гродна...

**Рэзюмэ**

**Артыкул распавядае пра мінулае і сучаснае горада Гродна, адміністрацыйнага цэнтра Гродзенскай вобласці. У розныя часы гэта быў горад рускіх князёў, другая сталіца Вялікага Княства Літоўскага, трэцяя сталіца Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. У наш час гэта адзіны горад Беларусі, у якім у добрым стане захавалася гістарычная гарадская забудова. У артыкуле коратка прадстаўленыя найважнейшыя помнікі дойлідства, якія можна ўбачыць у горадзе і яго ваколіцах, а таксама патлумачана працэдура бязвізавага ўезду на тэрыторыю Гродна і Аўгустоўскага канала.**

**Abstract**

***Горадзень, Gardinas, Гародня, Grodno, Гродна...***

**The article considers the past and present of the city of Grodna which is the administrative centre of Grodna oblast'. At different periods of history it was ruled by Russian dukes, it was the second capital of The Grand Dutchy of Lithuania and the third capital of The Polish-Lithuanian Commonwealth. Nowadays Grodna is a Belarusian city where you can find many historical buildings in a good state of repair. The article gives a short overview of the city's most important monuments. The requirements for visa-free entry to Belarus and the Augustów Canal are explained.**

## Горадзень, Gardinas, Гародня, Grodno, Гродна...

Горад рускіх князёў, другая сталіца Вялікага Княства Літоўскага, каралеўскі горад і трэцяя сталіца Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў… Прыгожы наднёманскі горад некалькі разоў змяняў сваю дзяржаўную і адміністрацыйную прыналежнасць, а таму з'яўляецца ўнікальным сведкам ды спадкаемцам шматкультурнай супольнасці.

**Гародня гістарычная**[1]

Археалагічныя даследаванні сведчаць, што горад быў заснаваны ў канцы X – пачатку XI стст. на Замкавай гары, там, дзе Гараднічанка ўпадае ў Нёман, на скрыжаванні гандлёвых шляхоў з Балтыкі да Чорнага мора. Упершыню ў пісьмовых крыніцах Гародня прыгадваецца 11 (14) жніўня 1127 г. у некалькіх летапісах: Лаўрэнцьеўскім, Іпацьеўскім і Радзівілаўскім, і таму менавіта гэтая дата лічыцца днём заснавання горада[2]. У XII ст. у Гародні былі збудаваныя так званая Ніжняя царква (на тэрыторыі Старога замка) і Каложа, найважнейшыя помнікі дойлідства горада. Паселішча развівалася пераважна на правым беразе Нёмана, а вельмі ўдалае геаграфічнае палажэнне спрыяла яго хуткаму культурнаму і гандлёваму развіццю. У XIII ст. Гародня ўваходзіла ў склад Вялікага Княства Літоўскага і была фарпостам на яго заходняй мяжы. У 1253 г. Даніла Галіцкі ўключыў горад у склад Галіцка-Валынскага княства, аднак ужо ў другой палове гэтага ж стагоддзя літоўскі князь Тройдэн зноўку захапіў Гародню. У 1284 г. яе зруйнавалі крыжакі, якія да 1402 г. каля 20 разоў падыходзілі пад горад і двойчы яго здабывалі. Вялікі князь літоўскі Вітэнэс (Віцень) пашырыў абарончыя забудаванні Гародні і прызначыў яе кашталянам Давіда Гарадзенскага, які не толькі годна абараняў горад, але і хадзіў вайной на ворага. У 1376 г. Гародня перайшла пад уладу Вітаўта, сына Кейстута, і стала другой сталіцай Вялікага Княства Літоўскага. У 1391 г. Ягайла надае ёй частковае магдэбурскае права, а ў 1410 г. гарадзенская харугва змагаецца ў Грунвальдскай бітве. З 1413 г. Гародня знаходзіцца ў складзе Троцкага ваяводства, а з 1440 г. належыць Казіміру Ягелончыку, які вельмі любіў паляваць у мясцовых пушчах, а пасля адпачываць у спецыяльна збудаваным для яго доме на тэрыторыі Ніжняга замка; менавіта тут ён у 1445 г. прыняў малапольскіх паслоў, якія прапанавалі яму польскі трон, а ў 1492 г. памёр у замкавых пакоях. У 1484 г. тут жа скончыў свой жыццёвы шлях яго сын Казімір, святы заступнік Гродна і Літвы, у гонар якога ў Вільні ўжо шмат стагоддзяў ладзіцца славуты кірмаш Казюкі. З другой паловы XV ст. горад разбудоўваецца таксама на левым беразе Нёмана, дзе паўстае так званы Занёманскі фарштат; абедзве часткі Гародні злучае мост, які можна ўбачыць на тагачасных малюнках. У 1496 г. вялікі князь Аляксандр дазваляе будаўніцтва ў горадзе ратушы з дзыгарам, і, згодна з магдэбурскім правам, Гародня атрымлівае ўласны герб і пячатку з аленем святога Губерта. У XV і XVI стст. горад хутка развіваецца; Георг Браўн у атласе *Civitates orbis terrarium* з 1572 г. назваў Гародню адным з самых прыгожых гарадоў Еўропы, што пацвярджае змешчаная ў кнізе гравюра. З 1560 г., на моцы Люблінскай уніі, горад уваходзіць у склад Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. З 1576 па 1586 г. ён з'яўляецца рэзідэнцыяй Стэфана Баторыя, які праводзіць тут шмат часу, палюе ў навакольных пушчах і перабудоўвае стары замак у прыгожы рэнесансны палац. Пачынаючы з 1673 г., у горадзе адбываецца кожны трэці сейм Рэчы Паспалітай (усяго іх было тут 11); для гэтых мэтаў будуецца так званы Новы замак, а Гародня – цяпер ужо на польскі манер Гродна – становіцца неафіцыйнай трэцяй сталіцай дзяржавы. Тут працавала Літоўская вайсковая камісія, праходзілі пасяджэнні Трыбунала ВКЛ. Не абыходзілі горад і ваенныя дзеянні: падчас польска-рускай і польска-шведскай войнаў сюды ўваходзілі расійскія і шведскія войскі, горад неаднаразова гарэў. Напрыканцы XVIII ст., дзякуючы актыўнай дзейнасці гарадзенскага старасты Антонія Тызенгаўза, у Гародні і яе ваколіцах было пабудавана каля 50 розных мануфактур, у якіх працавала больш за 1800 работнікаў. У гэты час паўсталі квартал для замежных рамеснікаў, Каралеўская школа лекараў, славутая Швейцарская даліна з прыгожым паркам, заснаваным знакамітым Жанам Эмануэлем Жылібeрам. Адчыніліся шматлікія школы, у

[1] Гістарычны матэрыял апрацаваны на падставе літаратуры: [Бобровский 1863: 1018; *Памятная книжка*... 1888: 59; Орловский 1910; Maliszewski 1919: 9-11, 37-39; *Grodno. Wydanie kółka*... 1934].

[2] Аднак як Дзень горада адзначаецца зусім іншая дата – 16 ліпеня, дзень вызвалення правабярэжнай часткі горада ў 1944 г. ад нямецкіх войскаў.

тым ліку славутая тэатральная, актыўна развівалася культурнае жыццё горада, распачаў дзейнасць гарадскі тэатр. З 1781 г. у Гародні быў Корпус кадэтаў, які наведвалі дзеці шляхты з усёй Усходняй Літвы. У 1793 г. у Новым замку адбыўся сейм, падчас якога быў зацверджаны другі падзел Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў, а пасля адмаўлення ад трона ў 1795 г. у замкавых пакоях жыў яе апошні кароль, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Гародня прымала актыўны ўдзел у паўстанні Тадэвуша Касцюшкі, а таксама ў пазнейшых лістападаўскім і студзеньскім паўстаннях; падчас апошняга горад быў цэнтрам барацьбы на тэрыторыі Беларусі, тут актыўна дзейнічалі Кастусь Каліноўскі і Валеры Урублеўскі, а ў мясцовым Гістарычным архіве захоўваюцца дакументы працэсу над паўстанцамі. Важным момантам для развіцця горада была будова чыгункі Пецярбург–Варшава.

На жаль, вялікія страты прынёс пажар 1885 г., які знішчыў значную частку старадаўняй Гародні і назаўсёды змяніў яе аблічча. У XIX ст. з горадам былі звязаны славутыя дзеячы розных культур: Эліза Ажэшка, Максім Багдановіч, Людвік Заменгоф, Леў Бакст (Лейбе Розенберг), Яўстахій Арлоўскі, Якуб Чахоўскі. У канцы XIX – пачатку XX стст. у Гародні дзейнічалі 18 розных школ, 2 кнігарні, бібліятэка. У 1915 г. горад захапілі нямецкія войскі, 1 снежня 1918 г. ён увайшоў у склад Літвы, а 10 красавіка 1919 г. – у склад II Рэчы Паспалітай. У 1920 г. ім на працягу двух месяцаў кіраваў Рэвалюцыйны камітэт, а пасля паразы бальшавіцкіх войскаў у польска-бальшавіцкай вайне Гародня ўвайшла ў склад Беластоцкага ваяводства. У верасні 1939 г. горад апынуўся пад панаваннем савецкай улады, пачаліся рэпрэсіі, арышты і высылкі ў Сібір, а праз два гады ўвайшлі фашысцкія войскі і распачалася нямецкая акупацыя, падчас якой былі знішчаны амаль усе гродзенскія габрэі. 16 ліпеня 1944 г. Гародня зноўку стала савецкай, і большая частка польскага насельніцтва горада або пакінула яго добраахвотна, або вымушана была гэта зрабіць падчас дзвюх так званых пасляваенных рэпатрыяцый у 1944-1946 і 1955-1959 гг. Аблічча горада змянілася кардынальна: габрэйскае насельніцтва знікла цалкам, польскае значна паменшылася, з'явіліся ў вялікай колькасці расійскія ваенныя і перасяленцы з Расіі, а пераважна ўсе адказныя пасады займалі рускія камуністы. Савецкая ўлада змяніла большасць назваў гарадзенскіх вуліц, і з той пары засталіся да нашых дзён іх камуністычныя назвы: Леніна, Кірава, Маркса, Урыцкага, Дзяржынскага, Савецкая, Сацыялістычная. Падчас ваенных дзеянняў II сусветнай вайны моцна была знішчана цэнтральная плошча горада, а ў пасляваенныя 50-я-60-я гг. XX ст. для новай, сацыялістычнай забудовы было знішчана некалькі кварталаў старога горада, на месцы якіх з'явілася "сталінская" архітэктура. У 1961 г. у цэнтры горада была ўзарвана Фара Вітаўта, адзін з найстарэйшых гарадзенскіх каталіцкіх храмаў.

**Гародня сучасная**

У наш час Гродна (менавіта такая назва канчаткова замацавалася за горадам) з'яўляецца цэнтрам Гродзенскай вобласці, найменшай з шасці ў Беларусі, што канчаткова сфармавалася ў 1954 г., калі да яе былі далучаныя часткі расфарміраваных Маладзечанскай і Баранавіцкай абласцей. У ёй пражывае найбольшая ў Беларусі колькасць польскага – больш за 21%[3] і літоўскага – 0,2% насельніцтва, дзейнічае 20 нацыянальных аб'яднанняў і 6 канфесій, большасць з якіх складаюць каталікі – 56% і праваслаўныя – 43%. Паводле дадзеных 2016 г., у Гродне пражывае больш за 365 тыс. чалавек, паводле нацыянальнага складу больш за ўсё беларусаў (62,57%) і палякаў (19,74%). У горадзе дзейнічаюць чатыры вышэйшыя навучальныя ўстановы; тры з іх дзяржаўныя: Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, Гродзенскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт і Гродзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт і адзін камерцыйны, філіял мінскага Інстытута Правазнаўства. Для тых, хто любіць мастацтва, адчыняюць свае дзверы два тэатры, драматычны і лялечны, вядомы далёка за межамі горада. У горадзе развіта прамысловасць, а ў 2002 г. была створана Свабодная эканамічная зона "Гроднаінвест", у якой зарэгістравана 90 рэзідэнтаў, у тым ліку замежных.

[3] Усе статыстычныя дадзеныя паходзяць з базы дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі: www.belstat.gov.by [доступ: 17.01.2017].

## Горадзень, Gardinas, Гародня, Grodno, Гродна...

**Гародня турыстычная**

Гродна называюць горадам-музеем, і гэта нездарма. Гэта адзіны горад у Беларусі, у якім у добрым стане захавалася гістарычная гарадская забудова. Гістарычны цэнтр горада займае плошчу каля 300 гектараў. Што можна ўбачыць у старадаўняй Гародні сёння? Гэта Стары (XI – XIX ст.) і Новы (XVIII ст.) замкі; Каложская царква (XII ст.); лютэранская кірха (XIX ст.); былая ўніяцкая, а зараз праваслаўная царква і кляштар Раства Багародзіцы (XVIII ст.), паезуіцкі касцёл і кляштар Францыска Ксаверыя (XVII ст.), некалі адзін з самых буйных комплексаў Рэчы Паспалітай з прыгожым алтаром і цудатворнай іконай, у гэтым кляштарным комплексе з царскіх часоў размешчана вязніца; пабернардзінскі касцёл і кляштар (XVII ст.), найстарэйшы каталіцкі храм горада, у якім брала першы шлюб Эліза Ажэшка, а цяпер у кляштарным комплексе знаходзіцца Гродзенская каталіцкая духоўная семінарыя; касцёл і кляштар францішканаў (XVII ст.) у занёманскай частцы горада, у якім працаваў калісьці св. Максіміліян Кольбэ; пабрыгідскі касцёл і кляштар (XVII ст.), на тэрыторыі якога захаваўся прыгожы ўзор драўлянага дойлідства XVIII ст., так званы лямус; дом Элізы Ажэшка, у якім месціцца яе музейны пакой; палацавы ансамбль Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Станіслававе (цяпер частка горада), а таксама шматлікія іншыя архітэктурныя помнікі XVI – пачатку XX стст.



Гродна. Дом Элізы Ажэшка. Фат. К. Канчэўская

У горадзе дзейнічае 7 музеяў: Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей, Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі, Музейны пакой Элізы Ажэшка, Музей Максіма Багдановіча, Музей гісторыі Гараdніцы, музей сучаснай народнай творчасці Гродзеншчыны і Музей-аптэка.



Гродна. Музей Элізы Ажэшка. Фат. К. Канчэўская

Можна таксама наведаць музейны пакой Зоф'і Налкоўскай, які месціцца ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы, і каталіцкія могілкі, на якіх спачывае Эліза Ажэшка і славутыя гродзенцы. З 1996 г., у пачатку лета, раз на два гады ў горадзе праходзіць Фестываль нацыянальных культур, падчас якога можна пазнаёміцца з багатай культурай розных нацыянальных дыяспар. У Гародні ёсць заапарк, пачатак якому паклаў заалагічны куток гарадской гімназіі, заснаваны яе настаўнікам Янам Кахаңоўскім. Калі Вы любіце гучны адпачынак, да вашых паслуг – моладзевыя клубы з разнастайнай праграмай, а калі даспадобы народная творчасць, на цэнтральнай вуліцы горада можна набыць разнастайныя сувеніры. У цёплую пару года можна палюбавацца горадам з Нёмана, з палубы рэйсавага параходзіка, які паплыве ўздоўж Замкавай гары.

**Запрашаем у Гародню без візы! Паспяшайцеся!**

Усе прыгаданыя помнікі архітэктуры і культуры, а таксама беларускую частку Аўгустоўскага канала, фарты Гродзенскай крэпасці, старадаўнія прыгожыя мястэчкі Сапоцкін і Адэльск, палац Валовічаў у Свяцку, агратурыстычны комплекс "Гарадзенскі маёнтак Каробчыцы" і шмат іншых цікавых месцаў можна цяпер пабачыць без неабходнасці набываць візу! Указ, які дазваляе бязвізавы ўезд на абмежаваную тэрыторыю Гродзеншчыны, у тым

ліку ў Гродна і на тэрыторыю Аўгустоўскага канала, дзейнічае пакуль да канца 2017 г., таму варта паспяшацца!

Як прыехаць без візы? З 2011 г. выключным рэзідэнтам на Аўгустоўскі канал з'яўляецца "Гроднаінвест", які на патрэбу турыстычнага руху заснаваў структуру "Гроднатурінвест". Перад планаваным прыездам, не пазней за 48 гадзін, належыць даслаць на адрас "Гроднатурінвест": www.grodnotourinvest@mail.ru, grodnotourinvest.pol@gmail.com адсканаваную копію свайго пашпарта, даты планаванага побыту (у бязвізавай зоне можна знаходзіцца не больш за 5 дзён), кантактныя дадзеныя. "Гроднатурінвест" зарэгіструе Вас у Памежным камітэце, аформіць дазвол (мінімальны яго кошт вагаецца ад 5-10 еўра, у залежнасці ад колькасці асоб) на перасячэнне мяжы і вышле яго на Вашу электронную пошту. Вам неабходна надрукаваць гэты дазвол, падпісаць і паказаць разам з пашпартам і страхоўкай (а таксама страхоўкай на аўтамабіль, калі Вы едзеце не аўтобусам) беларускім памежнікам. Бязвізавы ўезд магчымы толькі на аўтамабільных памежных пераходах у Кузніцы Беластоцкай з боку Польшчы і Райгардасе з боку Літвы (каля Друскенік). Пасля прыезду ў Гродна Вам неабходна будзе звярнуцца ў "Гроднатурінвест" з мэтай вырашэння фармальнасцяў, аплаты паслуг (можна зрабіць гэта на месцы, а не заўчасна, калі Вам так зручней) і атрымання арыгінала дазволу на бязвізавы ўезд, які трэба будзе паказаць пры выездзе з Рэспублікі Беларусь. "Гроднатурінвест" дапаможа Вам таксама знайсці недарагі начлег у Гродне і на Аўгустоўскім канале, прадумаць праграму адпачынку, набыць білеты ў музеі, тэатры ці на параходную прагулку па Нёмане і Аўгустоўскім канале, арганізуе актыўны адпачынак (байдаркі, веласіпеды) і экскурсію ў любыя месцы горада, Аўгустоўскага канала і ўсёй бязвізавай зоны, у тым ліку на беларускай ці польскай мовах. Усе падрабязнасці, а таксама тэлефонныя кантакты – на сайце "Гроднатурінвест" (www.grodnotourinvest.by).

ПРЫЯЗДЖАЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА! ГАРОДНЯ І АЎГУСТОЎСКІ КАНАЛ ЧАКАЮЦЬ ВАС!

**Літаратура**

Бобровский П., 1863, *Матеріалы для географіи и статистики Россіи, собранные офицерами генеральнаго штаба*, Спб, т. 2.

*Нацыянальны статыстычны камітэт Беларусі*, www.belstat.gov.by [доступ: 17.01.2017].

Орловский Е., 1910, *Гродненская старина*, ч. 1, Гродно.

*Памятная книжка гродненской губерніи за 1889 год*, 1888, Гродно.

*Grodno. Wydanie kółka historycznego przy 1-em społecznym gimnazjum koedukowanym*, 1934, Grodno.

Maliszewski E., 1919, *Przewodnik po Gubernii Grodzieńskiej*, Warszawa.

Рэдакцыя часопіса “Беларуская мова як замежная” (БМЗ) разгледзіць артыкулы, рэцэнзіі, справаздачы, у якіх закранаюцца разнастайныя праблемы БМЗ, напр.:

1) методыка выкладання – метады выкладання граматыкі, ведаў пра Беларусь; развіццё навыкаў вуснага маўлення, аўдыявання, чытання і пісьма; новыя тэхналогіі на занятках па беларускай мове; азнаямленне з літаратурнымі тэкстамі; выкарыстанне літаратурных тэкстаў у міжнародных, аднанацыянальных групах і ў (не)славянскіх групах і г. д.;

2) беларушчына замежнікаў – аналіз моўных памылак; даследаванне г. зв. пераходнай мовы (анг. *interlanguage*) і вымаўлення;

3) параўнальная глотадыдактыка – напр., беларуска-польская, беларуска-расійская, беларуска-нямецкая і г. д.; даследаванне падабенства і адрознення моў; параўнанне метадаў выкладання, праграм курсаў, моўных цяжкасцяў, ролі выкладчыка і г. д.

4) гісторыя і сучаснасць выкладання беларускай мовы як замежнай – старыя і новыя падручнікі беларускай мовы як замежнай, спосабы прэзентацыі матэрыялу, тэматычная разнастайнасць;

5) мова і культура – пытанні культурнай лінгвістыкі (лінгвакраіназнаўства, лінгвакультуралогія, беларусазнаўства); міжкультурная камунікацыя, выкладанне мовы і культуры Беларусі; месца культуры ў выкладанні мовы; прымаўкі, прыказкі, фразеалогія, безэквівалентная лексіка, маўленчы этыкет; стэрэатыпы ў падручніках, ролі мужчыны і жанчыны; распаўсюджаныя імёны і прозвішчы, рысы характару беларусаў; табуізацыя некаторых тэм, такіх, як эротыка, смерць, рэлігія; ідэалізацыя герояў падручнікаў, іх сям’і;

6) моўная прагматыка – напр., прывітанне, развітанне, падзяка, прабачэнне, просьба;

7) праблемы сертыфікацыі ўзроўняў валодання беларускай мовай як замежнай;

8) беларуская мова як замежная ў Беларусі і за мяжой;

9) прыклады матэрыялаў, практыкаванняў ды заняткаў па беларускай мове як замежнай;

10) праблемы адукацыі і працы выкладчыкаў беларускай мовы як замежнай у Беларусі і за мяжой, памылкі лектараў.

У часопісе матэрыялы друкуюцца па-беларуску, па-польску і па-англійску (гл. правілы да афармлення артыкулаў і рэцэнзіяў).

Кожны артыкул павінен мець кароткую анатацыю (каля 500 знакаў) на беларускай і англійскай мовах. Назва артыкула павінна быць пададзеная таксама ў перакладзе на англійскую мову.

Запрашаем усіх ахвотных дасылаць свае матэрыялы. Тэксты трэба дасылаць на электронную пошту **olga.volha1964@gmail.com** (Вольга Барысенка) і **rkaleta@uw.edu.pl** (Радаслаў Калета)

### Патрабаванні да афармлення артыкулаў і рэцэнзіяў для часопіса “Беларуская мова як замежная”

Шрыфт Garamond 12, інтэрвал 1,5 (у спасылках памер шрыфта – 10, інтэрвал паміж радкамі – 1,5).

**Афармленне артыкула**

Імя і прозвішча аўтара (на мове публікацыі тлустым шрыфтам)

Загаловак (тлустым шрыфтам)

Асноўны тэкст

Літаратура (ненумараваны алфавітны спіс)

Загаловак па-англійску (тлустым шрыфтам)

2 рэзюмэ (па-англійску і на мове публікацыі – прыкладна па 500 знакаў)

Цытаты падаюцца ў двукоссі (“”) – без курсіву.

Ілюстрацыйны матэрыял вылучаецца курсівам.

Спасылкі на літаратуру змяшчаюцца ў артыкуле ў квадратных дужках, падаем прозвішча

аўтара або рэдактара, год выдання і старонку, напр.:

1 аўтар: [Трацяк 2015: 58],

рэдактар: [Барысенка (рэд.) 2015: 54],

Працы аднаго аўтара, выдадзеныя ў адным годзе: [Калета 2015a: 65, 2015b: 120-124],

2 аўтары адной працы: [Барысенка, Калета 2015: 65],

3 аўтары адной працы: [Барысенка, Калета, Трацяк 2015: 65],

шмат аўтараў: [Калета і інш. 2015: 65].

Дапускаюцца аўтаматычна прастаўленыя спасылкі ўнізе старонкі для дадатковых заўваг і каментароў, але не для звычайных спасылак на літаратуру.

Бібліяграфічны спіс, размяшчаецца ў канцы артыкула ў ненумараваным алфавітным парадку. Кірылічныя і лацінаграфічныя працы нельга падаваць упярэмешку агульным спісам. Прыклады:

*Манаграфія*

Важнік С., 2008, *Кантрастыўны сінтаксіс польскай і беларускай моў. Семантыка і дыстрыбуцыя дзеяслоўнага прэдыката*, Мінск.

*Манаграфія пад рэдакцыяй*

Лагвінец А., Чуліцкая Т. (рэд.), 2013, *Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты*, Варшава.

*Раздзел у манаграфіі пад рэдакцыяй*

Лобач У., 2013, *Вобразы суседніх народаў у традыцыйным светапоглядзе беларусаў*, [у:] А. Лагвінец, Т. Чуліцкая (рэд.), *Беларусь і беларусы сярод суседзяў гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты*, Варшава, с. 39-52.

*Артыкул у часопісе*

Калета Р., 2013, *Пра беларуска-польскіх "фальшывых сяброў перакладчыка"*, "Acta Albaruthenica", т. 13, с. 135-144.

**Афармленне рэцэнзіі**

Ініцыял і прозвішча аўтара або аўтараў, загаловак кнігі, выдавецтва, месца і год выдання, колькасць старонак

Асноўны тэкст

Імя і прозвішча аўтара рэцэнзіі

*Рэдакцыя пакідае за сабой права адбору матэрыялаў для публікацыі, а таксама іх рэдагавання.*

### *Wymogi edytorskie do artykułów i recenzji publikowanych w języku polskim w piśmie «Język białoruski jako obcy»*

Czcionka Garamond 12, interlinia 1,5 (w przypisach rozmiar czcionki – 10, interlinia – 1,0).

*Schemat artykułu*

Imię i nazwisko autora lub autorów (w języku publikacji czcionką pogrubioną)

Tytuł (czcionką pogrubioną)

Tekst główny

Bibliografia (nienumerowana, układ alfabetyczny)

Tytuł w języku angielskim (czcionką pogrubioną)

2 streszczenia (po angielsku i w języku publikacji – ok. 500 znaków)

Cytaty w cudzysłowie („”), a nie kursywą.

Przykłady wydzielane kursywą.

Odnośniki do pozycji bibliograficznych umieszczane są w nawiasach kwadratowych z podaniem nazwiska autora lub redaktora, rok wydania i numer strony, np.:

dla 1 autora: [Tratsiak 2015: 58],

dla redaktora: [Kaleta (red.) 2017: 8],

dla 2 prac z tego samego roku jednego autora: [Kaleta 2015a: 65, 2015b: 120-124],

dla 2 autorów jednego dzieła: [Barszczewska, Kaleta 2015: 65],

dla 3 autorów jednego dzieła: [Barszczewska, Kaleta, Tratsiak 2015: 65],

dla wielu autorów: [Kaleta i in. 2015: 65].

Możliwe jest stosowanie przypisów dolnych dla dodatkowych uwag i komentarzy, ale nie dla podawania pozycji bibliograficznych.

Bibliografię umieszcza się na końcu artykułu w porządku alfabetycznym, nienumerowanym. Prace pisane cyrylicą powinny znajdować się w osobnym spisie.

Przykłady zapisów bibliograficznych:

*Monografia:*

Kaleta R., 2015, *Polsko-białoruska lapsologia glottodydaktyczna*, Warszawa.

*Praca zbiorowa pod redakcją naukową:*

Kaleta R. (red.), 2017, *Białoruś w dyskursie naukowym. Lingwistyka, socjologia, politologia*, Warszawa.

*Rozdział w pracy zbiorowej:*

Kaleta R., 2013, *O białorusko-polskiej homonimii międzyjęzykowej w europejskim kontekście*, [w:] K. Wojan, E. Konefał (red.), *Od dźwięku do słowa i jeszcze dalej*, Gdańsk, s. 125-134.

*Artykuł w czasopiśmie:*

Kaleta R., 2013, *O projekcie słownika białorusko-polskich fałszywych przyjaciół tłumacza na tle dorobku leksykografii polsko-białoruskiej*, „Studia Slavica", t. XVII/1, s. 83-90.

*Schemta recenzji*

Inicjał i nazwisko autora lub autorów, tytuł książki, wydanictwo, miejsce i rok wydania, ilość stron

Tekst główny

Imię i nazwisko autora recenzji

*Redakcja zastrzega sobie prawo selekcji nadesłanych metariałów oraz ich redagowania.*